*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 21 кастрычніка 1988 г. № 42 (3452) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

●

Як мы паведамлялі ўжо, 16 кастрычніка адбылося рэспубліканскае свята паэзіі. Прайшло яно — у адрозненне ад ранейшых — не ў адным месцы, а ў розных: у Гарадку, Хоцімску, Вілейцы, Навагрудку, Косаве, Акцябрскім, ахапіўшы ўсе вобласці рэспублікі.

Гэты здымак наш фотакарэспандэнт Ул. Крук зрабіў у Акцябрскім раёне. На мяжы раёна хлеб-соль прымае Максім Танк. Злева направа: А. Жук, П. Макаль, С. Грахоўскі, Б. Спрынчан, В. Кузняцоў (Ленінград), І. Калінаўскас (Літва), І. Якайціс (Латвія).

Фотарэпартаж са свята будзе ў наступным нумары «ЛіМа».

●





Агульнагарадскі вечар, прысвечаны 160-годдзю з дня нараджэння Льва Талстога, адбыўся ў Доме літаратара. Адкрыў і вёў вечар народны пісьменнік БССР Я. Брыль. Выступілі І. Чыгрынаў, В. Адамчык, А. Разанаў. Яны гаварылі аб велічы і неўміручасці талстоўскай спадчыны, аб цікавасці Талстога да Беларусі і да беларусаў, аб талстоўскіх традыцыях у беларускай савецкай літаратуры. Талстоўскі пафас сцвярджэння праўды і справядлівасці, пільная ўвага да чалавека, да яго духоўнага свету, падкрэслівалі прамоўцы, надзіва актуальныя нашаму сённяшняму дню, сучаснаму жыццю грамадства.

Вечар адкрывае Янка БРЫЛЬ.

Тэкст і фота Ул. КРУКА.



# Амерыканцы чытаюць нас

У Мінску працавала выстаўка «Шматкніжная Амерыка», якая выклікала вялікую цікавасць у жыхароў нашай сталіцы. На гэтай выстаўцы магла б быць і яшчэ адна кніга — зборнік савецкай літаратуры «У чарзе за шчасцем», выпушчаны нядаўна ў штаце Алабама. Складальнік Джэй Хігінботам уключыў у кнігу апавяданні, вершы, публіцыстыку многіх савецкіх пісьменнікаў, прадстаўнікоў літаратур народаў СССР. Тут вы сустрэнеце творы Булата Акуджавы, Мікалая Глазкова, Іона Друцэ, Барыса Пастэрнака, Аляксандра Твардоўскага, Геворка Эміна і іншых. Творам Віктара Астаф'ева, Ніла Гілевіча, Яўгенія Еўтушэнкі, Роберта Раждзественскага, Валянціна Распуціна папярэднічаюць вялікія, на старонку, партрэты аўтараў. У кнігу ўключаны вершы беларускіх паэтаў Эдзі Агняцвет, Рыгора Барадуліна, Васіля Віткі, Анатоля Вярцінскага, Васіля Зуёнка, Аляксея Русецкага, Яўгеніі Янішчыц, а таксама ўрывак з даклада М. С. Гарбачова на XXVII з'ездзе КПСС. Пасляслоўе да кнігі напісаў савецкі крытык, знаўца амерыканскай літаратуры Аляксандр Мулярчык.

Варта дадаць некалькі слоў пра складальніка. Справа ў тым, што прагрэсіўны амерыканскі пісьменнік Джэй Хігінботам наведаў летам 1986 года Беларусь з мэтай збору матэрыялу для кнігі пра нашу краіну. Ён знаёміўся з эканамічным і культурным жыццём рэспублікі, меў гутаркі ў Дзяржкамвыдзе БССР, Саюзе пісьменнікаў Беларусі, выступіў у газеце «Літаратура і мастацтва» з артыкулам «Створым жывы помнік» (гл. «ЛіМ» за 8 жніўня 1986 г.).

У час візіту амерыканскага літаратара заходзіла размова і аб папулярызацыі савецкай літаратуры ў ЗША. Джэй Хігінботам сваё слова стрымаў — склаў зборнік «У чарзе за шчасцем»... А. ГАРДЗІЦКІ.






●

У час работы выстаўкі «Шматкніжная Амерыка» яе дырэктар І. Рычманд сустрэўся ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі з пісьменнікамі і супрацоўнікамі таварыства. На здымку, які быў зроблены ў час сустрэчы: з І. Рычмандам гутарыць У. Карызна.

# ПАТРАБУЕЦЦА ЖЫЛПЛОШЧА...

## Некаторыя развагі наконт «кватэрнага пытання»

**«Мяняю... аднапакаёвую (4 пав. 5-пав. дома, тэл.),—на аднапакаёвую...»**

**«аднапакаёвую (17, 9 пав. 9-пав. дома, тэл.), паркет—на двухпакаёвую, можна ЖБК, р-н акадэміі, абсерваторыі, або—на аднапакаёвую ЖБК, акрамя мікрараёнаў...»**

**«...трохпакаёвую (48)—на аднапакаёвую і аднапакаёвую...»**

**Сотні падобных аб'яў, уключаючы міжгароднія,—можна ўбачыць кожны тыдзень у «Рекламном приложении» да газеты «Вячэрні Мінск». Дзесяткі іх бачым на сценах дамоў, на слупах. І хоць гэтыя «нелегальныя» паперкі бязлітасна знішчаюцца, на месцы старых растрапаных папяровых «барод» з тэлефонамі штодня вырастаюць новыя. І за кожнай аб'явай—лёс чалавека, або некалькіх людзей, сем'яў. Людзі нараджаюцца, старэюць, ствараюць сем'і, з'язджаюцца, разыходзяцца, паміраюць. І ўсё жыццё перад чалавекам, яго блізкімі ўзнікае кватэрнае пытанне... Прапіска, выпіска, пашырэнне жылплошчы, абмен, высяленне.**

„ЗВЫЧАЙНЫЯ людзі... кватэрнае пытанне толькі сапсавала іх..» — гаварыў месір Воланд з «Майстра і Маргарыты». Гаварыў пра нас з вамі. Але мы не будзем паглыбляцца ў маральна-філасофскі бок справы. Хоць прызнаем адразу, што чэргі, у якіх трэба стаяць дзесяцігоддзямі, а таксама бюракратычна-казуістычная паператворчасць выканкомаў ніяк не спрыяюць чалавечай годнасці. Зайдзіце, напрыклад, у аддзел па абмене жыллёвых памяшканняў Мінскага гарвыканкома. Туды вас прывядзе аб'ява ў тым жа «Рекламном приложении»: «Абменная інфармацыя падрыхтавана аддзелам... і вылічальным цэнтрам Мінгарвыканкома з выкарыстаннем АТС «Абмен». Па пытаннях публікацыі аб'яў звяртацца: (адрас)». Вас не могуць не падкупіць словы «аўтаматызаваная інфармацыйная сістэма», і вы чакаеце ўбачыць па названым адрасе нешта накшталт сучаснага НДІ са шкла і бетону. Ды не — звычайныя, гранічна няўтульныя цесныя пакойчыкі, дзе няма на што прысесці, затхлае паветра казённай установы. Наведвальнікі ў нязручных позах перапісваюць расклад прыёму і ўзоры запаўнення заяў і даведак, размешчаныя пад шклом на сцяне. Калі спрабуеш спасцігнуць сэнс шматлікіх параграфаў, адчуваеш, што яны не пад сілу сярэдняму чалавечаму розуму — патрэбна спецыяльная кансультацыя. Яе можна атрымаць у аддзеле ў адведзеныя для гэтага дні і гадзіны ў адпаведным пакоі. Там жа можна правесці папярэдні запіс на здачу заявы на абмен жылплошчы. Цяпер засталося здабыць бланк заявы, і калі ў вас ужо да гэтага прынята аб'ява і выдана даведка з варыянтамі абмену, усё ў парадку — збірайце патрэбныя дакументы, уступайце ў перагаворы з ЖЭСам, ідзіце ў РАУС, шукайце даведкі, кансультуйцеся з юрыстам і... чакайце. Ваша пытанне будзе вырашана на адным з пасяджэнняў выканкома. Праўда, без вашага ўдзелу. А вынік будзе абнародаваны на дошцы аб'яў у аддзеле абмену: напрыклад, «адмовіць у абмене ў сувязі з пагаршэннем жыллёвых умоў аднаго з бакоў». Усё проста і зразумела.

Канечне, было б абсурдна, калі б аддзел па абмену пры вострым недахопе жылля ў сталіцы размясціўся ў шыкоўных апартаментах. Ды і ў астатнім — парадак ёсць парадак. Праўда, некаму ўдаецца аформіць усе дакументы на абмен гранічна хутка, а некаму — пасля некалькіх безвыніковых спроб — звяртацца за дапамогай да падпольных маклераў. Яны часта дзяжураць тут жа, на парозе аддзела па абмену. Бяруць, зразумела, не па прэйскуранце... Дарэчы, даведка з варыянтамі абмену ў аддзеле каштуе пяць рублёў. Самаакупнасць. Праўда, ніякіх гарантый для кліента.

Аднак, праблемы абмену — гэта толькі частка той агромністай праблемы, якую мы называем жыллёвай і ад якой бяруць пачатак многія і многія іншыя.

ЦЯПЕР ужо ўсім стала зразумелай нерэальнасць і нават шкоднасць заяў аб завяршэнні будаўніцтва камунізму да якога-небудзь года. Куды важней, усвядомілі мы, у максімальна кароткі тэрмін забяспечыць людзей самым неабходным — прадуктамі, таварамі шырокага спажывання і жыллём. Ці атрымае кожная сям'я асобную кватэру да 2000 года? Можна было б адказаць: пажывём — пабачым. Можна было б і паспрачацца — якая патрэбна кожнай сям'і кватэра, ці ўсе будуць задаволены жыллёвымі ўмовамі ў 2000 годзе? (Ясна, што не). Але зараз галоўнае — будаваць. Хутка і якасна. На гэта і накіроўвае пастанова ЦК КПБ, Савета Міністраў БССР і Белсаўпрофа «Аб комплекснай мэтавай праграме паляпшэння жыллёвых умоў насельніцтва Беларускай ССР на XII пяцігодку і на перыяд да 2000 года». У пастанове, прынятай у маі гэтага года, адзначаецца, што за гады адзінаццатай пяцігодкі было ўведзена ў эксплуатацыю 424 тысячы кватэр і індывідуальных дамоў агульнай плошчай 23,7 млн. кв. метраў, або амаль удвая больш, чым за ўвесь даваенны перыяд. Сярэдняя забяспечанасць у жыллі на канец пяцігодкі склала 15,9 кв. метра на чалавека, з іх у гарадах і гарадскіх пасёлках — 13,8, сельскай мясцовасці — 19,6 кв. метра. Больш як 80 працэнтаў сем'яў рэспублікі жывуць у асобных кватэрах або індывідуальных дамах. Як быццам бы няблага. Але наколькі добрыя перспектывы на атрыманне жылля ў гэтых астатніх дваццаці працэнтаў?

**Парадокс у тым, што пры нарошчванні тэмпаў будаўніцтва (толькі ў мінулым годзе было ўведзена ў эксплуатацыю 6 млн. кв. метраў жылля па рэспубліцы, а ў наступнай пяцігодцы намечана павялічыць тэмпы будаўніцтва на 55 працэнтаў) чэргі на кватэры ў цэлым не толькі не скарачаюцца, але і растуць. Аб гэтым гаварыў у гутарцы з аўтарам гэтага артыкула намеснік загадчыка аддзела будаўніцтва і жыллёва-камунальнай гаспадаркі Упраўлення спраў СМ БССР Віктар Віктаравіч САВІЦКІ. У гарадах рэспублікі, паведаміў ён, чакаць кватэру цяпер трэба 18—25 год. Тэмпы росту гарадскога насельніцтва апярэджваюць тэмпы будаўніцтва жылля. Вось і растуць чэргі. І гэта, нягледзячы на тое, што Жыллёвы кодэкс БССР дазваляе стаяць адразу ў 3-х чэргах: у выканкоме, на прадпрыемстве і ў кааператыве. Даўжыня кожнай з іх адпаведна звыш 127 тысяч, 381 тысяча і больш за 92 тысячы чалавек. А ўсяго на ўліку сёлета ў рэспубліцы стаяць каля 630 тысяч сем'яў, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў.**

**Сюды можна дадаць і звесткі, апублікаваныя нядаўна Дзяржкамстатам СССР. Сярэдняя забяспечанасць жылплошчай у Мінску складае 8,9 кв. метра (для параўнання, у Маскве — 10,7, Вільнюсе — 9,7, Таліне — 11,8), а ўсяго на ўліку для атрымання жылля знаходзіцца 28 працэнтаў усіх гарадскіх сем'яў Мінска.**

Норма жылой плошчы на чалавека ў сталіцы рэспублікі складае 12 кв. метраў, а разліковая, для пастаноўкі на ўлік, — 6 і менш. Па разліках жа вучоных, якія прыводзіліся ў «Известиях», у каментарыі да паведамлення Дзяржкамстата СССР, памеры жылля толькі тады перастаюць адмоўна ўплываць на здароўе, калі на чалавека даводзіцца 12—13 жылой і 20—21 метр агульнай плошчы!

Ясна, што размова павінна ісці не проста пра «дах над галавой» для кожнай сям'і, не пра метры наогул, а пра паўнацэнную здаровую кватэру з усімі выгодамі — у гэтым і толькі ў гэтым сацыяльны сэнс жыллёвай праграмы. У многіх яшчэ на памяці жахлівыя ўмовы жыцця ў «камуналках». Але і асобная кватэра, калі ў ёй цесна, не хапае паветра і святла, — духоўна прыніжае чалавека, не спрыяе яго сацыяльнаму настрою.

Ва ўмовах індустрыяльнага грамадства чалавеку проста неабходна мець месца, дзе можна пазбавіцца ад стрэсу, скінуць груз псіхалагічных і фізічных перагрузак вялікага горада. А для гэтага патрэбна неабавязкова раскошнае, але ўтульнае і прасторнае жыллё.

Важны інструмент сацыяльнай справядлівасці — дыферэнцыраваная аплата, мяркуе В. Савіцкі. Яна павінна ўлічваць катэгорыю жылля, раён пражывання і г. д. За лішнюю жылплошчу даводзіцца даплачваць і цяпер. Аднак, не сакрэт, што большасць жыльцоў аддае перавагу невялікай даплаце, але расстацца з «лішкамі» не спяшаецца. Выказваюцца прапановы ўвесці мнагакратную плату за кожны лішні метр плошчы, але гэтае пытанне, наколькі цяпер вядома, будзе разглядацца ў рамках агульнага ўпарадкавання цэн, якое чакаецца да канца сёлетняй пяцігодкі.

**— Аднак ужо зараз, — гаворыць Віктар Віктаравіч, — гарвыканкомы, зацікаўленыя ў больш рацыянальным размеркаванні жыллёвай плошчы, дапамагаюць тым, хто добраахвотна жадае замяніць жыллё з «лішняй» плошчай. Выканком рэзервуе для гэтага кватэры ў цэнтры горада для замены. Акрамя таго, такім сем'ям, або адзінокім жыльцам без чаргі ўстанаўліваюцца тэлефоны, гарвыканком пры перасяленні дапамагае транспартам, рамонтам.**

**Аднак, адзначым для сябе, уладальнікі шматпакаёвых кватэр, нават адзінокія, не жадаюць пакідаць іх. Псіхалагічна можна зразумець пенсіянераў, якія не хочуць на старасці гадоў мяняць свае звычкі. Больш таго, паспрабуйце даказаць былым работнікам некаторых ведамстваў, што стометровыя «харомы», якімі адорвалі сваіх чыноўнікаў гэтыя ведамствы ад імя дзяржавы, належаць ім не па праве. Найвялікшай несправядлівасцю тыя «ціхія пенсіянеры» лічаць якраз усё тое, што адбываецца цяпер у нашым грамадстве.**

І ўсё-такі абмен, пра які ішла размова на пачатку артыкула, — адзін са спосабаў рашэння жыллёвай праблемы. Безумоўна, калі ён вядзецца не стыхійна, а мэтанакіравана, паслядоўна, у інтарэсах жыхароў. Для гэтага і была створана ў свой час АСУ «Абмен». Іншая справа, што АСУ — гэта яшчэ не панацэя. Патрэбны высакакваліфікаваныя кадры, патрэбна зацікаўленасць у эфектыўнай рабоце. А для гэтага гарвыканком павінен быць перш за ўсё гаспадаром на сваёй тэрыторыі. Між тым, рэальная ўлада, у тым ліку ў пытаннях горадабудаўніцтва, часта знаходзіцца ў руках прадпрыемства. Жыллёвую праблему можна ствараць і штучна — калі ўзводзяцца вытворчыя магутнасці, а аб будаўніцтве жылля «забываюць». В. Савіцкі прывёў у прыклад шынны камбінат у Бабруйску. У гэтым горадзе ледзь не самая доўгая чарга на кватэры (каля чвэрці веку!) у рэспубліцы, і справу цяпер хутка не паправіш.

**— Праблема заключаецца нават не ў грашах, — гаворыць Віктар Віктаравіч. — Грошы ў выканкомаў ёсць. Не хапае праектнай дакументацыі, свабодных зямель, не хапае магутнасцей падрадных арганізацый. Выйсце тут ёсць. Яно — у будаўніцтве гаспадарчым спосабам (гэта калі яно вядзецца самім забудоўшчыкам, без прыцягнення падрадных арганізацый). У нашай рэспубліцы яго актыўна выкарыстоўваюць Беларускі аўтамабільны, падшыпнікавы заводы.**

**Будуць ствараццца і МЖК — маладзёжныя жыллёвыя комплексы, якія ўжо заваявалі папулярнасць у Сібіры. Будуць яны ствараццца і ў Мінску, у некаторых іншых гарадах рэспублікі — там, дзе ёсць для гэтага ўмовы. Калі арганізацыя мае ліміт капукладанняў, праектную дакументацыю, а галоўнае — калектыў байцоў-будаўнікоў, можна ствараць МЖК. Але трэба мець на ўвазе, што пры заключэнні дагавораў з выканкомамі ў нас у рэспубліцы могуць быць і цяжкасці. У многіх райцэнтрах людзі стаяць на чарзе на кватэру па дваццаць пяць і больш гадоў. Моладзь, дапусцім, уступіць у МЖК, а як быць пенсіянерам? Тут ёсць праблема.**

ЯШЧЭ адно вострае, нават балючае пытанне, якое мы закранулі ў размове з В. Савіцкім,—гэта праблема так званых «лімітчыкаў». Што прымушае заводы ў абыход любых пастаноў і інструкцый, якія забараняюць набор «па ліміце», шукаць танную рабочую сілу ў сельскай мясцовасці — тлумачыць, відаць, не трэба. А вось што прымушае маладых хлопцаў і дзяўчат кідаць родную хату, часта добрую прафесію, неблагія заробкі ў калгасе ці саўгасе і пераязджаць у інтэрнат, дзе ўмовы жыцця часта проста абражальныя для чалавечай асобы, а перспектывы прапіскі больш чым праблематычныя? Адказаў на гэта ёсць, відаць, шмат. І ўсе яны неадназначныя. Але адна з прычын, несумненна, гэта магчымасць у будучым атрымаць добраўпарадкаванае жыллё. Так, «лімітчыка» прапішуць і паставяць на ўлік не раней, чым праз пяць гадоў, так, чакаць кватэру пасля гэтага прыйдзецца мінімум дзесяць гадоў (на прадпрыемстве ўсё ж чэргі меншыя, чым у выканкоме, ці кааператыве)... І ўсё ж такі 10—15 год чаргі ў Мінску — гэта не тое, што дваццаць пяць безнадзейных год дзе-небудзь у Пружанах, або любым іншым райцэнтры.

У Мінску, іншых буйных гарадах з'явіўся не так даўно яшчэ адзін спосаб вырашэння жыллёвай праблемы. Гэта індывідуальнае будаўніцтва прыватных дамоў. Пад яго адведзены зоны індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва, прадугледжаныя Генеральным планам. Пад Мінскам гэта раёны Калодзішчаў, Міханавіч, Фаніпаля. Індывідуальнаму будаўніцтву надаецца вялікая ўвага ў Комплекснай мэтавай праграме паляпшэння жыллёвых умоў. «Дзяржбуду БССР, Дзяржаграпрому БССР, аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому даручана забяспечыць у 1988—89 гадах распрацоўку ілюстраваных каталогаў праектаў індывідуальных жылых дамоў з надворнымі пабудовамі з улікам прыродна-кліматычных умоў і нацыянальных асаблівасцей рэгіёнаў», — сказана ў пастанове ЦК КПБ, СМ БССР і Белсаўпрофа.

**Пад час размовы з Віктарам Віктаравічам я ўспомніў дом, у якім давялося некалькі дзён пажыць гэтым летам. Раскошны яблыневы сад, дабротная хата з усімі прыбудовамі і — нежылы дух унутры, тоўсты слой пылу на падлозе, мутныя шкельцы ў скасабочаных рамах, павуцінне ў кутках. Адным словам, звычайная кінутая хата, якіх тысячы ў нашых блізкіх і дальніх вёсках.**

**Віктар Віктаравіч удакладніў: такіх кінутых дамоў на Беларусі — каля 60 тысяч. І гэта сапраўдная праблема. Справа ў тым, што ў большасці такіх дамоў ёсць гаспадары. Гэта спадкаемцы. Часта яны нават не афармляюць адносіны маёмасці. Але займаць пустуючыя дамы ўсё роўна нельга, гэта чужая маёмасць. І вось цяпер калгасам дадзена права купляць кінутыя дамы і здаваць іх пад жыллё, альбо прыстасоўваць пад бытавыя службы. А між іншым, на вёсцы чакаюць сваёй чаргі таксама нямала людзей — каля 30 тысяч.**

**Канечне, самае лепшае, калі сельскі жыхар не чакае манны з неба, а сам пачынае будавацца — пры дапамозе калгаса, зразумела. Ды для гэтага чалавек зноў-такі павінен адчуць сябе чалавекам, гаспадаром на зямлі, паверыць у тыя перамены, што пачынаюць адбывацца ў вёсцы.**

КАНСТЫТУЦЫЯ СССР прадстаўляе ўсім савецкім грамадзянам роўныя і безумоўныя правы на жыллё. Але, як мы ведаем з гісторыі, ніякія нават самыя гучныя дэкларацыі яшчэ не гарантуюць выканання законаў. Пашпартная сістэма, напрыклад, ужо сама па сабе пярэчыць канстытуцыйнаму праву на свабоду жыць там, дзе жадае чалавек. А нарматывы жылля, пра якія гаварылася вышэй? Ці не ўстанаўліваюцца яны дагэтуль келейна, у глыбіні чыноўніцкіх кантор? Нарматывы, канечне, павінны быць. Але, думаецца, галоўнае, чым павінны кіравацца выканкомы ў сваёй рабоце, — гэта не інструкцыі, не падлікі таго, што ёсць і чаго няма, а — рэальная і неадкладная дапамога людзям у іх жыццёвых справах.

...І ўсё-такі, каму быць пасрэднікам паміж людзьмі, якія жадаюць вырашаць кватэрнае пытанне, а значыць і свой лёс, і — дзяржавай, а дакладней ведамствам? Нядаўна ў Баранавічах быў створаны першы пасрэдніцкі кааператыў па абмену жылля. Будзем спадзявацца, першая ластаўка...

**Віталь ТАРАС.**

*Ліст у рэдакцыю*

Ніл ГІЛЕВІЧ

# НЕАБАЧЛІВАСЦЬ ЦІ... БЕЗАДКАЗНАСЦЬ?

ЦІ ХАЦЕЛІ б паважаныя беларускія чытачы, шчыра ўлюбёныя ў мову нашага прыгожага, краснага пісьменства, чытаць творы Я. Брыля на той гаворцы, якая бытуе ў яго родных мясцінах? А гавораць там людзі так: «Ну, от, прышлосё ж тоё вяселё. Ну, пашылі той валян. Ну й чакаям маладога, от жа скоро малады прыедзя. А я, вядомо, без бацька жыла — сірата, як музыка заграла, дак мяне аж баке мае насіла. Адгулялі тоё вяселё, вяселё нікепскаё зрабілі...»

Або: ці хацелі б чытачы раманы І. Чыгрынава чытаць вось на такой гаворцы: «Ну, пысватуюць дзеўку. Еслі сыгласны мыладыя, зарчыны пап'юць і свадзьбу прігытаўлівыюцца гуляць. Ны свадзьбу жарілі картошку, боршч варілі, ладкі якія пумажым салым. А гарелка дык ета бывала чэцвірць на ўсю свадзьбу, от пы такоі чарычкі, кіляшочык і ўсё». Менавіта так гавораць на яго малой радзіме — у вёсках Касцюковіцкага раёна.

А ці былі б рады аматары беларускай паэзіі, калі б Яўгенія Янішчыц сваю лірыку друкавала на роднай ёй гаворцы Іванаўскага раёна, — вось на гэтай: «І от на другый дэнь збыраюца йіхаты да молодэі. Убралыі хорошэ в косныкы, в квяты. Ну й поіхалы. А на дорозы ёго ж заступають, давай жэ ж крошкы ж вына! Стола поставылы... А посля заіхалы на надвірок, да давай свахы спываты».

«Ну, што за недарэчныя пытанні?—здзівяцца, напэўна, чытачы. — Каму гэта трэба, каб пісьменнік пісаў не на агульнанацыянальнай мове, а на мясцовай гаворцы? Мы, чытачы, жывем па ўсёй Беларусі, гаворак па тэрыторыі нашай рэспублікі шмат, але, дзякаваць богу, ёсць і адна агульная для ўсіх нас мова — літаратурная, якая аб'яднала нас колісь у нацыю, якою мы карыстаемся між сабою, на якой выдаюцца кнігі і газеты, гавораць па радыё і з тэлеэкрана... Вядома, добра, калі пісьменнік даражыць фарбамі матчынай гаворкі, калі гэта адчуваецца ў яго творах. Як, напрыклад, некаторыя асаблівасці гаворкі Мазырскага Палесся ў І. Мележа, ці паўночна-заходняй Міншчыны ў І. Пташнікава, ці паўднёва-ўсходняй Гродзеншчыны ў В. Адамчыка, ці ўсходняй Магілёўшчыны ў таго ж І. Чыгрынава... Але каб наогул пісаць творы на сваёй мясцовай гаворцы — навошта? Каму гэта трэба? Як іх будуць чытаць усе тыя чытачы, якія да гэтай гаворкі не належаць? Ды і для чаго ж тады выпрацоўвалася цягам цэлых стагоддзяў, складвалася, утваралася, фарміравалася адзіная беларуская літаратурная мова?..».

Каму здзівяцца чытачы, гэта трэба? Мусіць жа, некаму трэба, калі вось ужо каторы год, і ўсё з большым напорам, у рэспубліканскім друку ўздымаецца шум наўкол «архіактуальнага» пытання аб стварэнні ў Беларусі літаратуры на «палескай мове». Рэха гэтага шуму адгукнулася ўжо нават і ў прэсе цэнтральнай, і ў той, што разлічана на чытачоў замежных. Ну, а што ж, калі ўжо шумець — дык шумець! Няважна, ці яечка вылупіцца, ці гняздо застанецца пустое, — а нарабіць кудахтання карысна.

Справа, аднак, куды больш сур'ёзная, чым нейчае дзіцячае жаданне пакудахтаць.

Гадоў колькі назад адзін амбітны малады чалавек пачаў насіць па рэдакцыях вершы, напісаныя ім на адной з гаворак Брэсцка - Пінскага Палесся. Арэал гэтых гаворак параўнаўча невялікі — ад Століна да Брэста, асаблівасці ж іх, найперш фанетычныя, вельмі адметныя: трохі вышэй мы прыводзілі кавалачак «жывога» тэксту з Іванаўскага раёна — гэта якраз адтуль. Дарэчы, гэты куток паўднёва-заходняга беларускага Палесся вельмі шчодры ў апошнія дзесяцігоддзі на паэтычныя таленты. Мяркуйце самі: Яўгенія Янішчыц, Алесь Разанаў, Ніна Мацяш, Раіса Баравікова, Васіль Жуковіч, Мікола Пракаповіч, Любоў Тарасюк, Алесь Каско, Мікола Федзюковіч, Васіль Сахарчук, Леанід Дранько-Майсюк, Іван Арабейка, Зінаіда Дудзюк, Міхась Шэлехаў, Мікола Трафімук і інш. Мог бы ўслед за гэтымі вядомымі землякамі паспрабаваць свае здольнасці ў паэзіі на даступнай, зразумелай народу мове і амбітны малады чалавек. Але к яму прыйшла (сама? ці з чыёй дапамогай?) ідэя куды больш маштабная: узяцца за стварэнне мастацкай літаратуры на брэсцка-пінскіх гаворках, іначай — за фарміраванне яшчэ адной у Беларусі літаратурнай мовы. Ні больш, ні менш!..

Скажу адразу: сам па сабе факт, што нехта складае вершы на сваёй мясцовай гаворцы, мне, чытачу, абыходзіць мала. Як-то кажуць: на здароўе! Забавы бываюць усякія. Хоча — хай піша. Але ўся справа ў тым, што перад намі не проста дзівацтва. Тут намеры адкрыліся зусім сур'ёзныя і яны набываюць зусім сур'ёзную падтрымку на старонках нашай рэспубліканскай прэсы, на радыё і на тэлебачанні. А гэта ўжо, выбачайце, не забаўка. Тым больш, што ў ліку «хросных айцоў» нованароджанага дзіцяці — «літаратурнай палескай мовы» — выступаюць вядомыя і вельмі вядомыя, высока тытулаваныя асобы. Людзі, чыё слова для шырокай грамады нямала значыць.

Аказваецца, некаторыя таварышы як бы і не чулі ніколі і не здагадваліся, што жывая мова беларусаў мае некалькі дыялектаў, кожны з якіх у сваю чаргу аб'ядноўвае шэраг адрозных між сабой гаворак. І калі нарэшце, ледзь не ў старасці, для іх адкрылася гэта «дзіва», дык сёй-той сапраўды быў моцна ўражаны, і, пазнаёміўшыся з тэкстамі на брэсцка-пінскай гаворцы, у цнатлівым здзіўленні заякатаў: «Ай-я-яй! Дык гэта ж цікава! Гэта ж вельмі цікава! Трэба заахвоціць да напісання твораў на гэтай гаворцы! Хай будзе ў Беларусі яшчэ адна літаратурная мова! Апрача ўсяго іншага, гэта ж так адпавядае дэмакратызацыі духоўнага жыцця ў краіне, духу перабудовы!..»

О, святая прастата! — толькі і застаецца сказаць, пачытаўшы падобныя воклічы захаплення. Ну, па-першае, хто ж вам перашкаджаў, шаноўныя, пагартаць працы нашых вядомых мовазнаўцаў, напрыклад, акадэміка Я. Х. Карскага, або заглянуць ў падручнік па беларускай дыялекталогіі? Даведаліся б шмат чаго цікавага — пра фанетычныя, марфалагічныя і лексічныя асаблівасці мясцовых гаворак на тэрыторыі Беларусі. Па-другое, літаратару, навукоўцу, ідэолагу, відаць, варта ўвогуле хоць трохі цікавіцца такімі пытаннямі, як народ і яго мова, гістарычны працэс утварэння адзінай нацыянальнай, г. зн. літаратурнай мовы народа, значэнне і роля яе ў дзяржаўна-палітычным і культурным жыцці нацыі і інш.

Тут не месца ўдавацца ў навукова-тэарэтычныя глыбіні праблемы, але не сказаць пра тое, што павінна быць сёння зразумела і дзецям, — нельга. Ініцыятыва няўмеру амбітнага маладога чалавека, падагрэтая цнатліва-наівіннымі воплескамі тытулаваных, набывае, скажам адкрыта, небяспечны маштаб і можа перарасці, калі ёй не даць аб'ектыўнай ацэнкі, у вялікую, не толькі культуралагічную, але і палітычную праблему. Рабіць выгляд, што нічога такога асаблівага не адбываецца, і маўчаць, не звяртаць увагі на паднятую шуміху вакол гэтак званай палескай мовы — было б, на маё глыбокае перакананне, недаравальнай абыякавасцю да лёсу нацыі.

Так, падкрэсліваю: гэта датычыць не толькі лёсу нашай адзінай беларускай літаратурнай мовы, нашай нацыянальнай культуры, але і лёсу самой беларускай нацыі. Чаму — я патлумачу трохі далей, а пакуль — некалькі слоў пра характар шуміхі і пра некаторыя «тэарэтычныя» аргументы, якія прыводзяцца ў яе апраўданне.

У друку ўсё больш паяўляецца вершаў на пінска-брэсцкіх гаворках, усё больш іх выходзіць у эфір, публікуюцца прапагандысцкія — у карысць гэтага пачынання — матэрыялы: допісы, нататкі, артыкулы, рэпартажы, інтэрв'ю. Іншы раз такое ўражанне, што нашы органы інфармацыі проста навыперадкі спяшаюцца раструбіць пра гэта «вялікае адкрыццё веку» (ну як жа: на мясцовай гаворцы можна складаць вершы! Цуд!).. У публікацыях аб'яўляецца, што на «палескай мове» пішуць ужо дзесяткі (!) людзей і што ў іх ужо безліч твораў, і толькі нейкія нядобрыя антыдэмакратычныя, антыперабудоўчыя сілы не даюць гэтай іх творчасці дарогі да чытача — не пускаюць у друк. (Хаця якая там творчасць, якая паэзія — аднаму богу вядома). Паведамляецца, што ў другой палавіне XIX ст. варшаўская «Газэта польска» аб'явіла конкурс на палескі буквар, і ён быў выдадзены. Пры гэтым — ніякага тлумачэння гістарычных умоў і прычын такога афіцыйнага клопату пра асвету на Палессі! (Калі беларуская мова ў Беларусі наогул была забаронена). Напамінаецца, што на палескіх гаворках пісалі Ф. Савіч і М. Янчук. Пры гэтым — ні слова аб тым, што ў часы Савіча і нават у часы Янчука адзінай беларускай літаратурнай мовы яшчэ не было і што кожны беларускі паэт пісаў на гаворцы сваіх родных мясцін: і невядомы аўтар «Тараса на Парнасе», і Каліноўскі, і Багушэвіч, і Абуховіч, і Тапчэўскі, і пазней Цётка, і нават у дакастрычніцкага Купалы пераважае гаворка заходняй Лагойшчыны. У рэспубліканскім друку публікуецца нататка «Леў Талстой па-палеску», з якой даведваемся, што на пінска-брэсцкіх гаворках ужо існуюць рукапісныя пераклады аповесцей і апавяданняў вялікага пісьменніка. Падумаць толькі: яшчэ па сутнасці няма Талстога па-беларуску, а ўжо, бачыце, яго творы перакладаюцца на мясцовую гаворку. Даводзіцца, з разлікам на недасведчанасць чытачоў, што вось недзе, у іншых рэспубліках, больш спрыяльна ставяцца да стварэння пісьмовай літаратуры на дыялектах, напрыклад, у малдаўскіх газетах друкуюцца творы на мове гагаузаў і балгараў. Прачытаеш такое — толькі рукамі развядзеш. Балгарская або гагаузская — гэта дыялекты... малдаўскай? Ахценькі, божа мой!..

Вось такія, замешаныя на невуцтве, хлестакоўшчыне і шарлатанстве публікацыі захопліваюць усё большую плошчу на старонках рэспубліканскага друку. Гэта — у нашай сённяшняй сітуацыі, калі з небывалай вастрынёй паўстала пытанне аб выратаванні нашай адзінай нацыянальнай мовы, якая апынулася ў катастрафічным становішчы.

Я палічыў бы ўсю гэту «лінгвістычную» шуміху недарэчнай, не да часу, гульнёй, калі б не быў упэўнены, што перад намі — прадуманая стратэгія, канчатковая мэта якой — расчляніць нашу нацыю, для чаго трэба падарваць асновы яе трываласці, яе адзінства. Вядома, што адной з такіх асноў для кожнай нацыі ёсць яе агульнанародная літаратурная мова. Яна — найлепшы цэмент, якім мацуецца нацыя. Гэту ісціну, дарэчы, выдатна разумелі цары-імператары і вучоныя-царысты, калі не дапускалі стварэння беларускай пісьмовай, літаратурнай мовы. Страшнай для іх была менавіта **літаратурная мова**, якая сарганізуе ў адно цэлае нацыянальную культуру і з'яднае нацыю. Гэтага, гэтага баяўся царызм — аб'яднання насельніцтва Беларусі, «тутэйшых», у нацыю! Калі толькі пачне афармляцца адна для ўсіх літаратурная мова — значыць, фарміруецца нацыянальная самасвядомасць, а нацыянальна свядомыя беларусы пачнуць клапаціцца пра сваю нацыянальную культуру, пра свае нацыянальныя школы, пра сваю дзяржаўнасць, пра «свой пачэсны пасад між народамі». О, вялікадзяржаўныя шавіністы, царысты гэта разумелі выдатна! Мясцовыя гаворкі іх не палохалі, яны спакойна дазвалялі друкаваць на гэтых гаворках фальклор. Гаворак — шмат, у адным «северо-западном крае» добры дзесятак. А колькі ў Маларасіі ды ў Вялікарасіі! Хай сабе будуць жывыя-здаровыя! А літаратурная, пісьмовая мова будзе адна — ад Буга да Сахаліна. Значыць, і адна нацыя, адзін народ.

Тое, што так добра разумелі царысты, не хочуць разумець, як бачна, некаторыя нашы таварышы — пісьменнікі, вучоныя, журналісты, якія падтрымліваюць ідэю стварэння літаратуры на брэсцка-пінскім дыялекце. Якая, мякка кажучы, неабачлівасць! Сотні гадоў — у змаганнях і пакутах — дабіваліся нашы продкі сваёй літаратурнай мовы, праз церні і турмы ішлі да яе адзінства, і цяпер з лёгкасцю незвычайнай мы гатовы пагадзіцца на яе раскол. Літаратурная мова — гэта вялікая гістарычная заваёва народа, гэта атэстат сталасці нацыі, гэта сведчанне яе дзяржаўнай і культурнай цэласнасці. Кожны народ, кожная нацыя сваё моўнае адзінства беражэ як зрэнку вока. Толькі адсутнасцю спелага дзяржаўнага погляду на духоўную культуру народа, на яе ролю і значэнне ў лёсе нацыі можна растлумачыць падтрымку спробы замахнуцца на святая святых — на адзінства нашай нацыянальнай літаратурнай мовы.

Дарэчы, у вуснай гутарковай мове немцаў верхненямецкі і ніжненямецкі дыялекты розняцца так, што прадстаўнікі абодвух не так лёгка могуць паразумецца між сабой, але ні аднаму немцу не прыходзіць у галаву ствараць сёння на сваім дыялекце асобную літаратуру; яны разумеюць, чым гэта можа канчыцца, і што сеяць сумненні наконт адзінства нацыі могуць толькі яе замаскіраваныя ворагі або свае ж прастакі і невукі па недамыслію. Дыялект закарпацкіх украінцаў на слых можна ўспрыняць нават як нейкую асобную славянскую мову — настолькі ён далёкі ад украінскай мовы літаратурнай, але ніхто на Украіне не збіраецца ствараць яшчэ адну літаратурную мову — закарпацкую, па той жа прычыне, што там разумеюць, чым гэта можа кончыцца для адзінства нацыі. Ну, а мы ў Беларусі — калі ласка, ужо гатовы! Хоць бы падумалі аб тым, для каго трэба друкаваць творы на мясцовай гаворцы? Каб іх маглі чытаць — тады лагічна і школы адкрываць на гэтай гаворцы, ці, прынамсі, уводзіць яе ў вучэбную праграму як прадмет. Брава! Школы на агульнанацыянальнай мове будзем ліквідоўваць, што мы дагэтуль так паспяхова і рабілі, а на дыялектах і гаворках будзем адкрываць. Што — можа, у тым кутку Палесся не ўмеюць чытаць на беларускай літаратурнай мове? Дзесяткі гадоў чыталі, а цяпер — развучыліся, і трэба вяртацца назад, да часоў Дуніна-Марцінкевіча, і друкаваць кніжачкі на мясцовай гаворцы — пачынаць з нуля? Рэальнасць сведчыць пра іншае: я неаднойчы бываў у Драгічынскім раёне — самым цэнтры рэгіёна паўднёва-заходніх палескіх гаворак,— бываў у вясковых (беларускіх!) школах, у самай глыбінцы, аж на мяжы з Украінай, радаваўся, слухаючы, як хораша вучні гавораць на чыстай літаратурнай беларускай мове, пераконваўся, што мясцовыя жыхары, хаця і шануюць сваю гаворку, не цураюцца яе, пачуваюцца аднак жа беларусамі, пераканана ўсведамляюць сваю прыналежнасць да беларускага народа,

(Заканчэнне на стар. 6).

(Трубецкага), а браканьерская навек паяднала прыроду (Сноўдалу) і слабасільнага ў адзіноце ахоўніка яе Уладзіка. Але на шляху браканьераў стаў ледзь не спісаны намі Іванчык-дэзерцірчык — законным ахоўнікам, леснікoм. Значыць, жывыя мы яшчэ, значыць, не дарэмна блукаў. Сноўдала, чуючы, хоць і закаваную ў бетон, раданосную спадчынную сцежку. Дрэва павінна пладаносіць.

Я чытаю і думаю, адчуваю: не Мар'ян разблытаў вузел, недаступна гэта Мар'яну. Увогуле, ніводнаму з герояў рамана такая развязка прынцыпова недаступная. Гэта самаволя пісьменніка, яго творчае права і яго рашэнне — у знешне спакойным, разважлівым, нават трохі ўрачыстым ключы. І такое рашэнне зусім правамернае.

Другі туга закручаны вузел, які, як мне здаецца, не менш важны для ўсеагульнага самапазнання — вузел Сідара Місцюка. Як ні дзіўна, ствараецца ўражанне, што менавіта праз гэты вобраз шмат у чым мы пазнаём саміх сябе. Нечакана Сідар вырастае ў злавесна-прарочую і ў гэтым сэнсе—цэнтральную фігуру рамана. Пэўна, не выпадковым з'яўляецца тое, што першы, з кім знаёмімся,— Сідар. Ды яшчэ з нямецкім цесаком. І гэтае спатканне, можа быць, яшчэ больш злавеснае, чым наступныя, калі Сідар сялянскім самакалам высякае дзетдомаўскі сад і гэтым жа самакалам знішчае сталінскі бюст... Бог ты мой! Гэтакі шчымлівы рэквіем навакольнаму свету, бабрам, прыродзе— у «суседстве» з нямецкім цесаком і бязлітасным самакалам! Чаму так? А, відаць, таму (трэба быць вялікім неслухам, каб так самаіранічна ўсміхнуцца), што «мы заўсёды супраць, мы толькі зрэдку за». Але гэтае «зрэдку» здаралася і здараецца нашмат часцей, па сутнасці, амаль заўсёды, ды яшчэ з такім устойлівым пастаянствам, што адчуванне страчанай культуры — культуры зносін са знешнім светам, зносін паміж сабой, культуры адзення і г. д. — набывае далёка не абстрактныя абрысы. Здаецца, што многае ў нашых паводзінах і ўчынках вызначаюць не самі спадчынныя прынцыпы маралі, а—згадкі аб іх. І ці не ў гэтым адна з прычын таго, што Знавец (ад —знаць, ведаць, быць знаўцам) застаецца адзінокім, а ў сілу ўбіраецца аўтар іншага жыццёвага сачынення, заканадаўца інакшай жыццёвай тэмы — Місцюк.

Гэты вобраз таксама шмат у чым выбіваецца са звыклага кола традыцыйных уяўленняў. Паўторым: раман нельга чытаць без уліку яго яўнай прыпавесційнасці. Ігар Дзядкоў, здаецца, адчуў гэтую асаблівасць, выдатна выявіўшы «памечанасць» Місцюка і сваімі, і чужымі, і нават ваўкамі. Але крытык на гэтым і спыніўся, не пайшоў далей — не пагледзеў, што ёсць і адваротная паметка, паметка і нашага жыцця Сідарам Місцюком. І, мне здаецца, не толькі ў канкрэтных характарыстыках, а і ў алегарычным напаўненні, у гэтай «мечанасці» ўсяго, што акружае Сідара — вартасная сутнасць вобраза.

На самай справе, у В. Казько нават падкрэслена своеасаблівае сваяцтва: Місцюк, хоць і Місцюк, але—са Знаўцоў. У бацькавым наказе Сідару мы яшчэ чуем рэшткі крэпкай Знаўцовай пароды: «Прыслужвай усім, а служы толькі сабе, аслабеюць сёння тыя, хто ў сіле, увойдуць заўтра ў сілу слабыя сёння. Не лезь, хай поедам адно аднаго ядзяць. А ты сей, жні. Вось твая сіла». Сіла «сеяць і жаць» — ад Знаўцоў. А вось ідэя «служыць» і «прыслужваць» — уласна Місцюкова мадыфікацыя. І гэта выдзеліла, зафіксавала народная памяць. А яшчэ больш трывала зафіксавала і іншую, ды кім — немцамі! — дадзеную характарыстыку: «Манья-Ванья». Калі трэба— «Ванья», калі трэба — «Манья». І гэтае «Манья-Ванья», спалучанае з нахрапістасцю і працавітасцю, з прагавітай практычнасцю Місцюковай натуры, натуры моцнай, каржакаватай, хапатлівай— і баязлівай, выдала нам жахлівы феномен. Гэта ж і ў нас саміх, у нашай свядомасці і псіхалогіі прарастае, уладарна шурудзіць гэтае самае праклятае «Манья-Ванья». Гэта ж з нашай усеагульнай маўклівай згоды над садам людской супольнасці (як і ў дзетдомаўскім садзе) распасцерла свае крылы тупіковая ноч.

Хто мог выступіць у абарону саду? Ахрэм, Кастрат-Калістрат, Зулька-манашка, Лукаш-страннік? Маглі, ды толькі хто іх надта паслухае? Або, калі і выступяць, дык як на тым сходзе, дзе вырашалася пытанне пра рамонт дарогі «Курскай дугі». Да сходу ўсе былі смелыя, меркавалі спаўна, а галоўнае — дружна выказацца аб набалелым. А на сходзе — замаўчалі. Хіба не той жа самы «Манья-Ванья» пракінуўся, толькі не ў місцюкоўскім, вядома, абліччы, не ў такой злавеснай форме?! Адзін «ненармальны» Уладзік, трацячы апошнія сілы, не пракрычаў нават, а прахрыпеў свае слова. Вось яна, місцюкоўская «мета» жыцця.

Колькі разоў высякаў сад Місцюк, а дамогся сваёй запаветнай мары; колькі разоў нацэльвалася браканьерская стрэльба Паніхіды-Янота на бaброў — і ўсё ж грымнуў стрэл. Колькі разоў самому народу нашаму, як дзетдомаўскі сад, амаль пад корань высечанаму, адраджацца прыходзілася, колькі сіл і энергіі перастраціць спатрэбілася. І заўсёды ратавала, цягнула Знаўцова сіла. Місцюкова — нішчыла і высякала. Сёння — у рамане — пакуль што верх сілы Місцюковай: апошні яцвяг, апошні зубр, апошні рэліктавы гай. Вось тут, на гэтым «апошнім», як на апошнім рубяжы, чакае нас трэці, самы горкі і даўкі «вузел» Казьковага рамана — вузел суцэльных анамалій.

Спасціжэнне свету, імкненне да яго гармоніі здзяйсняецца ў В. Казько, звычайна, не праз моц і сілу, а зрушана, анамальна, праз боль і нават немач. Тыя героі, што заключаюць у сабе выспавядальную Казькову ідэю — хваравітыя, у іх анамальнае, зрушанае ўспрыманне свету. Андрэй Разорка, Колька Лецечка — героі не толькі розных кніг, *але і розных часавых* пластоў, маглі б усклікнуць, як і Уладзік Саліла: «Мамо, спасі, мамо, спасі!» Гэта ж іх свет працягвае рушыцца і плавіцца ва Уладзіку, гэта ж іх свет таксама «здратаваны бурамі і землятрасеннямі», а ласкавае сонейка *«гарачым абручом абціснула скроні»*.

Можна гаварыць пра пэўнае паўтарэнне вобраза, і гэта ў нечым будзе праўда. Але варта заўважыць і ўсвядомленае, мэтанакіраванае паўтарэнне мастацкага прынцыпу: прага гармоніі ў пісьменніка заўсёды суседнічае з пякельным, разбуральным і ачышчальным болем. Не з галавы ўзяты гэты прынцып, не эстэцкая фантазія спарадзіла яго — як цяжка дабіцца гармоніі ў гэтым сапраўды перавернутым, анамальным свеце. Як цяжка дабіцца яе і ў праўдзівым мастацкім творы. І як проста скажа аб гэтым пісьменнік: «Не збярог, не адстаяў, не захаваў — расказаў як мог, як умеў».

Ісціннасць, праўдзівасць і боль — гэтыя тры прынцыпы, абвешчаныя празаікам яшчэ на самым пачатку творчай дзейнасці, застаюцца вызначальнымі і сёння. Але калі нават сабраць разам у адну шарэнгу «анамальных» герояў усіх папярэдніх твораў, то наколькі карацейшай і разрэджанай аказацца яна ў параўнанні з «анамальнасцю», закладзенай у «Хроніцы дзетдомаўскага саду». Тое, што бачыў на сваім вяку Мар'ян Знавец — раздзяляльную мяжу і будаўніцтва калгасаў, вайну і ваенных бязбацькавічаў, бачылі ці маглі бачыць многія героі нашай літаратуры. Але іншае прыйшло да нас з Мар'янам і яго дзетдомаўцамі. Асабліва — з выхаванцамі пасляваеннага дзетдома.

«Малыя арыштанцікі»,—запісала на сваю стужку народная памяць. «Сум і абяздоленасць», — вачамі і вуснамі Мар'яна запісаў В. Казько. Было, вядома, нясцерпна балюча за абяздоленых вайной. Але тады такіх была **большасць**, і іх жахліва-ненармальны стан успрымаўся ўсё ж як **звыклы** стан большасці, а таму і самі пакуты пераносіліся, напэўна, лягчэй. Цяпер жа абяздоленасць стала іншай, іншымі і абяздоленыя. Іх — меншасць. Гэта ўжо іншы статус і іншае вымярэнне.

Калі я чытаю пра дзетдом (увогуле, дзетдомаўскія старонкі — лепшыя ў рамане), пра кінутых і пакінутых дзяцей, думаю пра іншае — пра дамы састарэлых, пра пакінутых бацькоў. І ёсць жа сляпая заканамернасць, злая іронія ў тым, што кінутыя бацькі ў дамах састарэлых у пераважнай большасці належалі да трагічнага пакалення 30-х гг., якіх сілаю і пагрозаю вымушалі выракацца сваіх бацькоў — «ворагаў народа». Рэха той грандыёзнай памылкі, што істотна дэфармавала свядомасць, чуецца сёння ў сціпшанай пакутлівай скарзе акуратненькіх дамоў-інтэрнатаў. І няхай у рамане В. Казько няма прамога ўпамінання пра **такі** дом, але як не пачуць гэтага скразнога адчування пакінутасці і спустошанасці, як не ўбачыць праяву гэтай здэфармаванай свядомасці нават у Мар'яна Знаўца. Прыгадаем даваенны футбольны эпізод (страх за разбіты начальніцкі гадзіннік і разгубленае мармытанне «я куплю...») і супаставім з эпізодам ваеннага часу, калі Мар'ян за непаслушэнства «выганяе» на фронт Сёмку Шверкіна. Хто-хто, а Мар'ян-франтавік мусіў ведаць, што такія гарачыя хлопцы гінуць у першую чаргу. І гібель Сёмкі ў душы Мар'яна, загадчыка дзетдома, адгукнулася не толькі болем — страхам адгукнулася: гэта ж не гадзіннік, не адкупіш... Але Мар'ян «адкупляецца» — пафаснай прамовай, геpаічным фарсам.

Увогуле, такая маральная дэфармацыя, паводле В. Казько, ёсць і вынік анамалій, і, у сваю чаргу, — першапрычына новых анамальных з'яў. Змагацца з ёй наканавана мастацтву, і тую зрушанасць свету, тую экспрэсію, не пабаюся ўжыць нават тэрмін — экспрэсіянізм пісьма В. Казько я асабіста схільны ўспрымаць як свядомы аўтарскі пратэст супраць суцэльнага самазаспакаення, з чаго так марудна і цяжка мы спрабуем выйсці. «Хроніка дзетдомаўскага саду», нягледзячы на пэўную перагружанасць і груваткасць асобных мясцін, нібы назнарок разлічаных на карпатлівую работу літаратуразнаўцаў, пры яўным недахопе дынамізму ў дыялогах (здаецца, В. Казько сам, адзін выгаворваецца за сваіх герояў), пры частковай, як мне здаецца, згладжанасці і непераадольнасці жыццёвага матэрыялу, адно з асноўных прызначэнняў мастацкай прозы выконвае спаўна — *раман прымушае думаць* і думаць.

г. Гродна.

Старонкі ўспамінаў

# Адзін вечар з Макаёнкам

**У той раз мне чагосьці спатрэбілася да Івана Пятровіча Шамякіна, які быў тады першым сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў рэспублікі. Пазваніў у прыёмную — сказалі, што Іван Пятровіч на кінастудыі, *будзе ў канцы дня*. Пад вечар я прыехаў у саюз. Супрацоўнікі ўжо разышліся, на месцы быў толькі сакратар праўлення Леанід Гаўрылкін. Дзверы ў яго кабінет расчынены, бачу — сядзяць там Андрэй Макаёнак і Мікола Кусянкоў. Твары ва ўсіх вясёлыя, усмешлівыя.**

**— Аднаго разу я падцікаваў, *як ён, перапыніўшы працу,* размінку рабіў, — гаварыў Макаёнак. — То прыгнецца, то выпнецца, то прысядзе... А вы ж уяўляеце, як яму — прысядаць. Ха-хаха!.. — І да мяне: — Гэта я расказваю, як на дачы фільм здымаў пра Шамякіна.**

**Потым Андрэй Ягоравіч успамінаў яшчэ розныя вясёлыя, *смешныя эпізоды*. Расказваў дасціпна, з уласцівай яму гарэзлівасцю. Праўду ён гаварыў, ці прыдумляў што для смеху — гэта ж Макаёнак! — але нарагаталіся мы ўволю.**

**Раптам чуем — па лесвіцы туп-туп-туп... Здагадаліся: Іван Пятровіч ідзе.**

**— Леанід, ты тут? — гукнуў ён, пабачыўшы расчыненыя дзверы ў Гаўрылкіна. Падышоў, стаў у дзвярах.**

**Мы ажно панадзімаліся, давімся смехам. Колькі секунд Іван Пятровіч уважліва глядзеў на нас, пераводзячы позірк з твару на твар.**

**— О, Макаёнак ужо нешта пра мяне брэша.**

**Андрэй Ягоравіч выкінуў да яго руку:**

**— Ну што ты, Іван! Хіба пра цябе можна хлусіць! — Твар яго быў — сама святая нявіннасць, а з вачэй так і пырскаў смех. — Ды пра цябе ж калі адну толькі праўду гаварыць, дык і то на ўсё жыццё хопіць расказваць. — І ён закаціўся такім рогатам, як можа толькі смяяцца чалавек прыязна-іранічнай і шчырай душы.**

**— Зубаскал. — Іван Пятровіч таксама засмяяўся. Шчыра, *дабрадушна. Ён, відаць было,* прывык ужо да бяскрыўдных сяброўскіх падколак, смешачак-хаханек друга, якога хлебам не кармі, а дай пасмяяцца.**

**Уціхамірыўшыся нарэшце, Андрэй Ягоравіч паглядзеў на Кусянкова, на мяне: ну, што цяпер будзем рабіць, хто першы пойдзе на прыём да *начальства, якога весела чакалі?* Раптам ён зірнуў на гадзіннік:**

**— Хлопцы, дык жа ўжо вячэраць пара! Хадземце ў бар, перакусім, кавы пап'ём.**

**Прапанова была аднадушна прынята.**

**За вячэраю разгаварыліся, хто куды апошнім часам ездзіў, з кім з цікавых людзей сустракаўся. Мне прыгадалася, што Макаёнак нядаўна быў на Жлобіншчыне, як дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі сустракаўся з маімі аднавяскоўцамі. Мая вёска Старая Рудня ўваходзіла ў склад выбарчай акругі, у якой ён балаціраваўся.**

**— Як цябе, Андрэй Ягоравіч, сустракалі мае землякі? — спытаў я.**

**Ён паглядзеў на мяне ўважліва, на хвіліну задумаўся.**

**— Сустрэча, Аляксандр Пятровіч, была цікавая.—Асцярожна, няўзнак, накрыў на стале маю далонь сваёю, злёгку пацiснуў, усё роўна як падзякаваў мне, быццам я меў якое дачыненне да той сустрэчы. — Народу прыйшло — поўная зала. А Палац культуры, хлопцы, — звяртаўся ўжо да ўсіх, — калгаснікі пабудавалі... — На момант запнуўся і не змог, каб хоць тут — без гумару. — Крыху, можа, меншы, чым Дом літаратара. Народ розны быў: і старэйшыя, і моладзь. Дык што больш за ўсё запала мне ў душу — гэта адкрытасць людская. У пытаннях да мяне, у выступленнях — ва ўсіх, нават у самых на першы погляд прыватных — здорава праявіліся людзі. Паказалі, што яны далёка неабыякавыя да грамадскіх спраў. І да парадкаў нашых, і да беспарадкаў. Так пра розныя беспарадкі крылі! Што ў сваім калгасе, што ў дзяржаве. Гады ідуць, а іх, беспарадкаў, казалі, не менее. Куды дэпутаты глядзяць? І вярхоўныя, і сельсавецкія.**

**— Мусіць, сам ты паддаў там жару? — спытаў Іван Пятровіч.**

**— Жару, хлопцы, у людзей хапае, толькі не ў кожнага ён разгараецца, калі тое трэба. — Цёмныя з хітрынкаю вочы Андрэя Ягоравіча да краёў запоўніў журлівы одум. — Гэтая сустрэча, скажу вам па шчырасці, яшчэ раз моцна нагадала мне і пра нашы дэпутацкія, і пра пісьменніцкія абавязкі.**

**Мяне ўразіла, як выразна, яскрава ў яго вачах можа адлюстроўвацца кожны рух душы.**

**— Не абышлося і без кур'ёзу. — Андрэй Ягоравіч ціха, быццам кудысьці ўдалечыню, дзе пабачыў нешта прыемнае яму, усміхнуўся. — Перад тым, як разыходзіцца, падняўся з крэсла ў першым радзе хударлявы сівагаловы мужчына. «Прызнайся, таварыш пісьменнік, ты ў сваіх кніжках праўду пішаш, ці выдумляеш? — Валасы сівыя, а голас малады. — Кажуць жа, некаторыя пісьменнікі ўсё выдумляюць. Дык прызнайся?» Доўга давялося яму растлумачваць: выдумляю, але праўду. Ён усё не згаджаўся: якою ж праўдаю можа быць выдумка! Нарэшце махнуў рукой: «Ну добра, кажа, пішыце пра якую хочаце праўду. Але вам жа пісаць — што нам зямлю араць. Дык лепш — калі пра нявыдуманую, гэта самае, без залішняй меліярацыі, пасля якой, да прыкладу, каб не было — вунь як наша спрамленая Окра ў голых берагах».**

***Я* ведаў таго хударлявага сівагаловага: Мікалай Войцехаў, інвалід Вялікай Айчыннай вайны, ветэран працы, калгасны механізатар.**

**— Бачу, спадабалася табе тая сівая галава, — заўважыў Іван Пятровіч.**

**— Дзіва што, такі тыпаж!.. *І што ты, Іван,* усё *чапляешся* да мяне? — зноў пачынаў Макаёнак дражніцца з ім. — Мала з цябе падначаленых? Гаўрылкіна вунь...**

**— Андрэй Ягоравіч, а пасля сустрэчы вячэра была? — уключыўся ў іхнюю «пасоўку» Гаўрылкін.**

**— А як жа! Ды такая, хлопцы, што, не раўнуючы, на той В'етнам хапіла б!**

**Ён так і сказаў: «На той».**

**У свой час Макаёнак разам з Сяргеем Арловым наведаў В'етнам. Ляцелі з пасадкай у Кітаі. Было тое даўно, калі паўночны В'етнам толькі адраджаўся пасля вызвалення з-пад каланіяльнага прыгнёту. Разруха, галеча, мізэрныя пайкі... Да невылечнага болю параніла гэта чуйную душу Андрэя Ягоравіча, запомнілася яму навек. Таму пытанне Гаўрылкіна такім дзіўным чынам нечакана спраецыравала ў яго свядомасці два розныя ўспаміны.**

**— У В'етнаме Сяргей гаварыў мне: «Калі мы, Андрэй, наступны раз прыедзем з табой у гэтую цудоўную, гасцінную краіну, пабачым яе ў росквіце і добрай сіле. Глядзі, якія тут людзі, якая прырода!..» Няма Сяргея. «Его зарыли в шар земной...»**

**Усталявалася напружаная паўза. Мы думалі пра вогненнага танкіста і песняра франтавой музы Сяргея Арлова. Ён не згарэў у танку — згарэў у творчасці.**

**...Ці змог з нас хто падумаць тады, што ў недалёкім будучым *не стане і самога яго,* Андрэя Макаёнка?..**

**Аляксандр КАПУСЦІН.**

# АБРАЗКІ

**Віктар ЧАРОПКА**



**Гады два назад Адам Мальдзіс добразычліва расказаў пры сустрэчы, што малады хлопец — ліцейшчык з трактарнага завода Віктар Чаропка напісаў цікавы раман пра Клецкую бітву 1507 года і паўстанне Міхала Глінскага. Потым і я пазнаёміўся з аўтарам, прачытаў ягоны раман, дарэчы сказаць, прыняты выдавецтвам «Мастацкая літаратура», а яшчэ прачытаў некалькі апавяданняў і ёмісты стос абразкоў. Жанр апошніх можна акрэсліць, як лірычную прытчу.**

**Нарадзіўся Віктар Чаропка ў Мінску ў 1961 годзе. Выхоўваўся ў школе-інтэрнаце. Пасля службы ў Савецкай Арміі пайшоў працаваць на завод. Пакуль што галоўнае яго захапленне — гістарычная проза. Але, мяркуючы па абразках, нізка якіх прапануецца тут увазе чытачоў, дыяпазон творчых інтарэсаў В. Чаропкі будзе значна шырэйшым.**

**Кастусь ТАРАСАЎ.**

●

Не чытайце гэтую кнігу. Каб не мучылі вас сумненні, ці несці свой крыж, ці кінуць яго на ростанях і павярнуць на лёгкі з крывымі паваротамі шлях. Лепш у краіне здрады закапайце яе ў полі, і на вялікую вам радасць вырасце тады дрэва. Не, не з кнігамі, а з трыццаццю срэбнікамі, і вам не прыйдзецца за іх прадаваць сваіх настаўнікаў. А лепш закапайце яе ў краіне сяброў, і тады забруіць віна чыстага крыніца. І вып'еце вы за сябе, за сяброў, за каханых, і забудзеце аб безнадзейнай справе — шукаць тое, што не знойдзеце. А лепш усё ж закапаць яе ў краіне кахання, каб выраслі чырвоныя ружы, якія можна падарыць каханым. Яны так і зрабілі — закапалі кнігу ў краіне кахання. А ружы, што выраслі, сарвалі. Адзін аднёс іх на могілкі, дзе ляжалі продкі, другі паклаў іх каля дзвярэй кахання. трэці на вуліцах горада прадаў, а я ўсыпаў імі свой шлях і пайшоў па ім, зусім забыўшыся, што ў ружаў ёсць колкі.

●

У цёмным пераходзе нехта дагнаў мяне. Лёгкім дотыкам рукі крануў за плячо. Я азірнуўся. І хаця мае вочы даўно звыкліся з цемрай, але нікога не разглядзеў ля сябе. «Памроілася», — вырашыў я, хацеў ужо ісці далей, як мяккі жаночы голас запытаўся: «Ты куды?» Здзіўлены нямала, адказаў: «Я ўперад, мяне там чакаюць, даўно чакаюць, я спазнюся, мне некалі».

— Ніхто цябе не чакае і няма чаго спяшацца, пайшлі назад, там святло і вясна, — прагучала мне ў адказ.

Нехта ўзяў мяне за руку і павёў за сабою назад. Я адчуваў цяпло ягонай далоні і мне было прыемна. Паслухмяна, як дзіцё, крочыў я за невядомым. Мы выйшлі наверх. Сонечны німб вясны, што зіхацеў у блакіце нябёсаў, асляпіў мяне і на момант я заплюшчыў вочы, а калі расплюшчыў, то вакол сябе нікога не ўбачыў. Куды падзеўся невядомы? А ўвогуле ці быў ён? «Памроілася», — зноў вырашыў я.

Па стромкіх прыступках спусціўся ў чорную пашчу перахода. Вобмацкам, бы сляпы, пайшоў па ім. Вочы ніяк не маглі звыкнуцца з цемрай. Так я ішоў, і чамусьці чакаў, што зараз нехта кране за плячо і скажа: «Не спяшайся, там ніхто цябе не чакае».

●

— Ваяводзіч, вазьмі мяне да сябе ў дружыну. Не магу я бачыць, як варожыя мячы п'юць кроў маіх братоў і сясцёр, не магу чуць плач удовіц і матуляў, няма мне прытулку на маёй зямлі, — попелам пажарышчаў пакрылася яна, няма мне дзе прыхіліць калені перад богам — разрабаваны нашы храмы, не чую я спеваў дзяўчат, толькі злавеснае груганнё вяшчае новыя няшчасці маёй радзіме. Вазьмі мяне да сябе.

— Колькі ж табе сонцаваротаў мінула?

— На Купалу семнаццаць будзе.

— І да чаго ты здатны?

— Я валодаю мячом і мая рука не стоміцца секчы варожыя галовы. З лука я збіваю птушку ў лёт. Я ўтаймую самага дзікага каня. Я магу сокалам узляцець пад сонца і шчупаком нырнуць у глыбіні рачныя, воўкам шнураваць па шляхах, мурашкай прабрацца ў варожы замак, пугачом не ведаць спакою ў начы.

— Можаш ты нямала, вось толькі галоўнага не хапае табе, а без гэтага няма чаго на поле сечы выходзіць.

— Чаго, ваяводзіч?

— Падумай сам.

І доўга ён думаў, а потым вымавіў:

— А яшчэ, ваявода, я душу сваю гатоў пакласці за другі свая.

— Што ж, бяру цябе ў дружыну.

●

Раней, калі я ішоў дадому, яна сядзела каля акна на кухні і весела ўсміхалася мне. Прайшло колькі гадоў. Цяпер, калі іду да сябе, то часцей бачу каля акна яе чалавека. Мажны і барадаты, ён на поўны рот умінае ўсё, што яна падносе да стала. Цяпер, калі і зірне ў акно, то весела не ўсміхнецца — твар яе заклапочаны і сумны. Затое мне хочацца ўсміхнуцца, парадавацца яе сямейнаму шчасцю.

●

Белы-белы лебедзь — вачэй не адарваць. Чорны-чорны коршак зноў кружыцца ў нябёсах.

— Чаго ты, коршак, кружышся? Чаму страціў спакой? Чаму сумуеш сам з сабой?

— Чаму я не лебедзь белы, вачэй не адарваць? Чаму я коршак чорны? Зноў ад мяне пахаваліся ўсе.

Мы часта хочам злавіць жорава, так і не разумеючы, што калі яго ў нас няма — рукі нашы свабодныя. Аднак на свабодныя нашы рукі намагаюцца начапіць ланцугі. І самае дзіўнае, што часцей усяго гэтае робяць сябры, тыя, якія даўно носяць іх. Яны кажуць, што жадаюць нам дабра, бо калі рукі вольныя, можна натварыць глупства, за якое вельмі балюча б'е жыццё. Ім шкада нас і яны ветліва прапануюць ланцугі. І вось цяжкія ланцугі адцягваюць нам рукі. Не абараніцца ад ворага, не пакараць нягодніка, не абняць каханую, не паднесці кубак да роту, не ўзяць пяро, не падтрымаць стомленага сябра, не памахаць услед жоравам. Затое ёсць надзея, што не наробіш глупства.

●

Зіма не спяшалася. Зразумела, сустрэлася з восенню. Сяброўкі. Даўно не бачыліся. І пайшло: як жыццё-быццё, як справы, што чуваць. Два дні зіма па календары, а яна ніяк не нагаворыцца з восенню, не спяшаецца да нас...

У аўтобусе хлопчык пытаецца ў сваёй матулі:

— Матулечка, а чаму снегу няма? Ужо два дні зімы, і ніводнага снегу.

Ён так і мовіў — ніводнага снегу. Я думаю, што самая паэтычная мова ў дзяцей. Матуля нешта тлумачыць сыну аб цыклонах, а той нічога не разумее і сумна паглядае ў акно. А мне хочацца падысці да яго і распавесці, што цыклоны тут ні пры чым, а зіма проста сустрэлася з сяброўкай — восенню — і размаўляюць, і хутка-хутка яна прыйдзе да нас, і сыпане на радасць бялюткім снегам. А можа, у наш час няма чаго дурыць дзіцяці галаву такімі казкамі?

●

Я ведаю сродак унікнуць бедаў. Трэба іх загнаць за блізкі свет, дзе ваўкоў галодных зграя праглынуць каго-небудзь даўно марыць. Быў бы добры ім абед. І я даўно б так зрабіў. І жыў бы без пакутаў, але шкада мне ваўкоў, бо вельмі атрутлівыя беды, і ваўкі, праглынуўшы іх, паздыхаюць. Шкада мне ваўкоў і ўсё.

●

Чарадзейная, цябе выставілі ў чым маці нарадзіла для пацехі натоўпу. Хацелі абразіць гэтым. І ты жадала цуду, каб, як у святой Інесы, выраслі ў цябе доўгія валасы, і імі ты схаваеш ад людзей сваё голае цела, альбо спусціцца з нябёсаў анёл і коўдрай ахутае цябе. Але гэтага не здарылася, і натоўп убачыў твайго цела першаісную прыгажосць. Ты маліла бога аб цудзе, і яно здзейснілася. Уражаныя тваёй прыгажосцю людзі забыліся пра звадкі і спрэчкі і, стаіўшы дых, глядзелі на цябе. Апусціўся меч, так і не секанула па галаве свае ахвяры шабля, палец не націснуў на курок. Людзі глядзелі на цябе. Ведаеш, ты выратавала свет ад загубы, бо было сказана: «Прыгажосць выратуе свет».

●

Каб праўды на зямлі ніхто сказаць не мог, запячаталі воскам вусны і навесілі на іх замка. А каб праўды не бачылі, завязалі ўсім вочы. А каб праўды не пачулі, затыкнулі ўсім вушы, і занеслі ў чорныя спісы ўсе светлыя душы. Але, як ні стараліся затыкаць, завязваць, зачыняць, а праўда жыве. Тады мёдам памазалі вусны, віном залілі вочы, казкамі аб шчасці суцешылі слых і зарэзалі праўду без нажа.

●

Каторы дзень завіруха па-воўчы вые за акном, б'ецца ў шыбу да мяне. Занесла ўсе дарогі да сяброў, да каханай і ў мой дом. Стогнуць на вуліцы дрэвы. Каб ім хаця трошкі цяпла. Але дзе ўзяць цяпла для ўсіх змерзлых, калі самі згарэлі ад пачуццяў, толькі попел і астаўся? Ужо лепш у ложку забыцца сном і ўсё пакінуць на потым. Ёсць нешта і ў гэтым.

●

Ты думаеш, я табе зайздрошчу? Ну і што з таго, што ты весела смяешся, не ведаеш трывог і такая наіўная, і такая прывабная і прыгожая чароўнасцю сваёй маладосці? Белазуба ўсміхаючыся, бяжыш ты насустрач часу і, як прыдарожныя слупы, мільгаюць у тваіх вачах дні юнацтва. Бяжы, бяжы, цябе чакаюць наперадзе першыя расчараванні і страты, цябе чакае каханне, падобнае на скваппную старую, чакаюць тужлівыя сюжэты адзіноты, рып немазаных колаў сямейнага воза і разбітае карыта надзей. Бяжы, а я затрымаюся.

●

Як алкагаль, боль абпальвае скроні. Снегам замятае зіма шляхі. Сумна. Дзе ж тыя дні? Яны наступяць хутка, і зіма сядзе пісаць мемуары. І вясновае чарадзейства ад сонечных шчадротаў пашле вестку: на адной з дарог, што як дзіця заблудзілася ў жыцці, ззяе падкова. Ты, сябар, не сумуй, мы знойдзем і падымем гэтую падкову. І скваппны лёс верне нам страты сумных дзён, калі толькі ў цёмным астрозе не знойдзем прытулку сабе.

●

Праз анямелую маўклівасць стагоддзяў, праз пыл забыцця гадоў даскакаў да нас збройны рыцар і мячом, затупленым у сечах з ворагам, стукаецца ў нашыя сэрцы.

— Адчыніце, адчыніце, я ваша памяць, што вярнулася да вас, каб азірнуліся вы назад і з мінулага знялі пыл забыцця, і загаворыць яно з вамі моваю вашай старажытнаю. Што вы ведаеце, жывучы ў сытасці свайго спакою, аб мінулым, сваім нараджэнні і аб будучым сваім прызначэнні? Коласам пустым у неба далёкае глядзець альбо важкім схіліцца да Зямлі, што вас ўзрасціла?

Але да многіх сэрцаў ён так і не дастукаўся. У адных меч высякаў іскры аб метал, а ў другіх рассякаў пустату, а ў трэціх птушка хцівасці залатою дзюбаю адбівала яго, а ў чацвёртых ён трапляў у ваду абыякавасці, а ў пятых сустракала мана і здрада... Але былі і тыя, хто адчыняў свае сэрцы і прагнуў памяці.

І страсянулася піраміда ўлады. З самага яе верху да Нізоў трывожным званком тэлефонаў пракацілася: «Небяспечна, небяспечна. Злавіць і пакараць. Народу растлумачыць усю небяспеку!»

У газетах, па тэлебачанні і па радыё ў адзін голас: «Не верце— гэта не памяць, а вар'ят. Усё, што ён кажа — дыверсія супраць генеральнай лініі нашага развіцця да шчаслівага будучага, гэта хлусня. Трэба злавіць яго». І кінуліся па слядах яго...

Толькі за першым коннікам даскакаў другі і стукае мячом у нашыя сэрцы:

— Адчыніце, я ваш гонар.

А за ім трэці:

— Адчыніце, я ваша годнасць.

За ім чацвёрты:

— Адчыніце, я ваша слава.

І следам яшчэ і яшчэ:

— Адчыніце, я ваша песня.

— Адчыніце, я ваш анёл-ахоўнік!

— Адчыніце, я ваш

— Адчыніце, я...

Дастукаліся б яны да нашых сэрцаў, пакуль іх не зловяць.



**Валянціна АКОЛАВА**

# ПАКЛОН БЕЛАРУСІ

*СУЧАСНЫЯ БАЛАДЫ.*

## *Уступ пра радню*

**Ад снягоў Беларусі да вёснаў Расіі**
**Маладосць мая пойдзе пралескі ірваць.**
**І вачыма спытае ў прыволжскае сіні:**
**— Як ключы ад радзімы нашчадкам аддаць!**

**Я Байкал вымяраю дзядулевым зрокам.**
**І ў Сібір трыццаць сёмы на плаху вязу...**
**Памяць Болем усходзіць пад сонцам высокім,**
**Быццам неба спрабуе хадзіць па лязу.**

**Пад Кабулам ляжаць невіноўныя хлопцы —**
**Прабачэння не просяць. Як горы — маўчаць...**
**Расквітнеламу Бэзу так горка на гронцы.**
**Ды ў пляменніцы Тані — сіроцкі адчай.**

**Каля сцен бараўлянскіх суддзёй сабе кожны.**
**І ў мяшчанскіх кватэрах так мулка дабру.**
**Больш не верыцца ў лозунгі літар парожніх**
**І ўчарашніх, што зачырванілі зару.**

**І сяброў, як даверу, не болей, а меней...**
**Роднай мове, як падчарцы, ласкі няма!**
**Бранзалеты падзей! Я да слоў перамены**
**Дабаўляю салёны старобінскі сад.**

**Якубовіча Лёні апошнія вершы,**
**Што пражыў дваццаць два, і ля шахты ляжыць.**
**У сумлення няма — ні апошніх, ні першых.**
**І дарункам з дарункаў — адно слова — «жыць!»**

**Век закляты і злосны, і шчодры крывёю,**
**Не дазволь анікому слязьмі цябе піць..**
**Абеліскі радні над зялёнай Зямлёю,**
**Беларусь у Сусвеце дазвольце любіць.**

## *Смерць цялушкі*

**Цялушка памірала на траве**
**Чарнобыльскай — у светлы прыцем маю.**
**І ападалі росамі з-пад вейк**
**Гарачыя дакоры маёй мамы.**

**— Няшчасце, доню.. Вымірае хлеў:**
**Зімой — падсвінак, а цяпер — гнядоўе...**
**Раскрышаны, з зямлі сабрала хлеб.**
**І ў вочы сонца пазірала доўга.**

**— Як хусткай абвязалі белы дзень.**
**І кожнай хмары вычарнілі бровы,**
**Хіба бяду схаваеш ад людзей!**
**І вуснам забароніш болю словы!**

**Слязьмі па пысе мёртвай правяла.**
**Цялушку посцілкай старой накрыла.**
**І згорбленай да новага хлява**
**Пайшла, як быццам свечку запаліла.**

**І больш не плакала, а два радкі**
**Вымольвала жаночаю гартанню:**
**— Патоне рушнічок сярод ракі,**
**Ды плынь павек любовейцы-каханню...**

**І лёгкі сон адмовіла вачам.**
**І слухала, як цяжка над падушкай —**
**Ноч дыхала. І Вечнасці адчай**
**Случанскі вецер над зямлёю гушкаў..**

## *Балада пра бабулю Алену*

Вярніце беларуса да яго зямлі...
З пісьма маёй бабулі А. Аколавай
І. Сталіну ў 1937 годзе.

**Бабуля піша пісьмы-просьбы Сталіну ў Маскву:**
**Мой гаспадар ні ў чым нявінны, хворы на сухоты...**
**Слязой пільнуе, як сыны суніцы спеляць у ляску.**
**І фотаздымкі мужа рве ад трыццаць сёмага ўпотай.**

**Бабуля піша просьбы-пісьмы Сталіну пяць год.**
**Надзеі спеліць у радках адчайных:**
**— Памажыце!**
**І носіць іх цяжар на пошту ў вёску Жоўты Брод.**
**І сонцу моліцца з валошкамі ў калгасным росным жыцце.**

**Бабуля піша пісьмы-просьбы Сталіну... пра страх**
**Яе сівыя косы смела кожнаму сказалі.**
**І песні, што як вішні перагорклі на губах,**
**Байкальскі бераг ля змялелай Случы ў сенакос шукалі.**

# НА ДЗЕСЯТЫМ, САФІЙСКІМ, «СКАРЫНІНСКІМ»

Кожныя пяць год славісты ўсяго свету збіраюцца на кангрэсы, каб падзяліцца плёнам сваёй працы. Дзесяты такі кангрэс, пэўным чынам юбілейны, адбыўся нядаўна ў Сафіі і з'явіўся, паводле сведчанняў балгарскага друку, самым прадстаўнічым за ўсю гісторыю славістыкі. У праграме я налічыў звыш 1100 дакладаў і пісьмовых паведамленняў, заяўленых вучонымі з 29 краін (сёлета да славістычнага руху далучыліся Кітай і Новая Зеландыя). На гэтым фоне вельмі і вельмі сціпла выглядала Беларусь: усяго дзевяць заяўленых дакладаў і чатыры паведамленні — меней, чым ад такой неславянскай краіны, як Аўстрыя. Да таго ж не ўсе беларусы своечасова выдалі тэксты, не ўсе прыехалі. А з двух заяўленых нашымі фалькларыстамі дакладаў не быў прачытаны ніводны. Не было ў нас і абавязковага ў такім выпадку даклада пра беларуска - балгарскія сувязі. Усё гэта, вядома, выклікала сумны роздум: не дбаем мы пра свой міжнародны аўтарытэт, не дбаем...

**Праўда, беларусы крыху «рэабілітавалі» сябе ў вачах славістычнай грамады даволі дружным удзелам у спецыяльным пасяджэнні, прысвечаным 500-годдзю з часу нараджэння Францішка Скарыны. На ім былі зачытаны два даклады ад Беларусі — А. Жураўскага і У. Анічэнкі («Беларуска-іншаславянскі сінкрэтызм мовы выданняў Ф. Скарыны») і мой («Ф. Скарына як прыхільнік збліжэння і ўзаемаразумення людзей і народаў»). Прафесар М. Альтбаўэр (Ізраіль) гаварыў на пасяджэнні пра арыенталізмы ў скарынінскіх перакладах, прывёў цікавыя звесткі пра пераклад Бібліі на старажытную беларускую мову, зроблены на пачатку XVI ст. віленскімі яўрэямі. Даклад прафесара А. Макміліна (Англія) быў прысвечаны вобразным выяўленчым сродкам прадмоў і пасляслоўяў Скарыны. Затым у дыскусіі выступілі І. Навуменка, Г. Цыхун, А. Каўко (Масква), Л. Бэднарчук (Варшава) і іншыя. Яны расказалі пра тое, што робіцца ў Беларусі да юбілею выдатнага асветніка і гуманіста, вызначалі яго ролю ў нацыянальным і агульнаславянскім кантэксце. Прамоўцы дружна патрабавалі перавыдаць усе кнігі вялікага палачаніна фотатыпічным спосабам — гэта стымулявала б развіццё ўсяго скарыназнаўства (дарэчы, адпаведныя рэкамендацыі беларускім вучоным былі выказаны ў заключных дакументах кангрэса). Вёў пасяджэнне (на беларускай мове) прафесар Макмілін. Гаворка пра беларускага першадрукара выклікала цікавасць балгарскага друку і радыё: рэпарцёры атакавалі нас з просьбай расказаць як пра Скарыну, так і пра Беларусь увогуле, пра беларуска-балгарскае літаратурнае і гістарычнае ўзаемадзеянне, і назаўтра ўсе мы ганяліся за газетай «Земеделско знаме», дзе была змешчана даволі падрабязная справаздача з пасяджэння.**

Скарынінскі «круглы стол» значна ўзняў прэстыж нашай дэлегацыі. Калі напярэдадні, у час вячэры ў атэлі, адзін канадскі славіст даволі з'едліва пытаў у мяне, а ці прысутнічаюць беларусы на кангрэсе ўвогуле, то праз дзень ён ужо вымушана ўсміхнуўся ў ліфце: маўляў, чуў, чуў, беларусы ператварылі кангрэс ледзь не ў скарынінскі... Да нас падыходзілі вучоныя з іншых краін, цікавіліся будучым юбілеем. У гаворцы нараджаліся канкрэтныя прапановы. Кракаўскія славісты Р. Лужны і З. Нядзеля пагадзіліся, што пяцісотгоддзе Скарыны трэба адзначыць — і навуковай сесіяй, і мемарыяльнай дошкай — там, дзе ён вучыўся — у Ягелонскім універсітэце. Прафесар С. Грачыёці расказаў пра тое, што могуць зрабіць да юбілею італьянскія славісты, указаў на некаторыя рэальныя сляды скарынінскіх дакументаў. А члены заходнегерманскай дэлегацыі перадалі нам рэкламны праспект фундаментальнага фотатыпічнага выдання «Біблія Славіка», якое рыхтуюць Р. Олеш і Г. Ротэ. Туды ўвойдуць перадрукі першых выданняў Бібліі на ўсіх славянскіх мовах, у тым ліку скарынінскія пераклады, «Радзівілаўская Біблія» (Брэст, 1564), «Біблія Сымона Буднага» (Лоск, 1572). Гартаў я гэты праспект з дваістым пачуццём: з аднаго боку, прыемна, што наша спадчына прываблівае вучоных заходняга свету, з другога — горка, што мы не можам пахваліцца тут сваім прыярытэтам. Не, падумалася, справа нацыянальнага гонару беларусаў — перавыдаць скарынінскія кнігі раней, чым гэта будзе зроблена на Захадзе... У рэшце рэшт, не купляць жа потым за валюту тое, што нам належыць па праву!

Аднак, зразумела, пасяджэнне, прысвечанае Скарыне, было толькі часцінкай вялікай праграмы, прадугледжанай арганізатарамі X Міжнароднага з'езда славістаў. Амаль цэлы тыдзень на ім працавалі пяць секцый, дзе з поспехам выступалі і беларускія вучоныя — акадэмік І. Я. Навуменка («Элементы міфалогіі ў паэзіі Янкі Купалы і Якуба Коласа»), члены-карэспандэнты АН БССР В. К. Бандарчык, М. В. Бірыла і П. Ц. Петрыкаў, вядомыя лінгвісты А. С. Аксамітаў, Б. Ю. Норман, А. Я. Супрун, Г. А. Цыхун (перавага ў нашай групе мовазнаўцаў над літаратуразнаўцамі вельмі ж кідалася ў вочы). Да беларускай праблематыкі шырока звярталіся і вучоныя з іншых краін. Так, балгарка С. Ніколава выступіла з дакладам «Кірыла Тураўскі і паўднёваславянскія літаратуры», вядомы польскі даследчык Б. Белаказовіч — «Мікалай Янчук і славянскія літаратуры». Беларускі матэрыял быў багата прадстаўлены ў дакладзе ўкраінцаў Н. Круцікавай, В. Бяляева і А. Белага «Мастацкі прагрэс і ўзаемаўзбагачэнне ўсходнеславянскіх літаратур». На прыклады з творчасці Р. Барадуліна, Д. Бічэль-Загнетавай, Г. Бураўкіна, Р. Баравіковай, У. Караткевіча, У. Някляева, П. Панчанкі, А. Разанава, М. Танка, В. Шніпа спасылаўся Ф. Няўважны (Варшава) у дакладзе «Паняцце «дабра» ў сучаснай усходнеславянскай паэзіі». Да спадчыны Францішка Скарыны, Сімяона Полацкага і іншых беларускіх асветнікаў звярталіся В. Вомперскі, А. Елеонская, В. Жываў (Масква), Р. Пікіо (Рым). А беларуская мова стала прадметам гаворкі ў васьмі дакладах, прадстаўленых вучонымі Венгрыі, ГДР, Канады і Польшчы.

Як і на кожным кангрэсе славістаў, у Сафіі была выстаўка літаратуры, выдадзенай за апошнія пяць год. Але і тут Беларусь была прадстаўлена вельмі і вельмі бедна, у чым, безумоўна, ёсць і наша віна. Мы паспадзяваліся на Інстытут навуковай інфармацыі па грамадскіх навуках АН СССР, які афіцыйна рыхтаваў савецкую частку выстаўкі. У Сафіі я ўзяў у рукі друкаваны «Каталог» гэтай часткі — і жахнуўся: з беларускіх літаратуразнаўчых прац аказаліся ўключанымі толькі кнігі У. Калесніка і Ю. Канэ (безумоўна вартыя таго) і — ніводнай манаграфіі па ўзаемасувязях літаратур, ніводнай працы па Скарыне, ніводнага слоўніка ці энцыклапедычнага выдання, якімі мы па праву маглі б там ганарыцца. Затое трапілі ў каталог кнігі выпадковыя (да прыкладу, чацвёрты том З. Бядулі з «Язэпам Крушынскім»). Аднак чамусьці нават іх не аказалася на стэндах (не давезлі, ці што?). Хоць часткова ратуючы сітуацыю, перадаю гаспадарам выстаўкі беларускія выданні, прывезеныя «саматужна», і — яны адразу выклікаюць цікавасць. У сваю чаргу разглядаюся па стэндах, што надрукавана пра Беларусь у іншых краінах. І знаходжу: балгарын П. Атанасаў піша пра ўспрыманне «Граматыкі» Мялеція Сматрыцкага сярод паўднёвых славян, І. Радзішэўская (Рым) — пра Мацея Стрыйкоўскага як гісторыка і паэта. А ў «Познанскіх літоўска - славістычных даследаваннях» аказаўся беларускі тэкст самага ранняга інвентара радзівілаўскіх маёнткаў, датаваны 1528 годам (часамі Скарыны!).

**На сафійскім кангрэсе была, вядома ж, і культурная праграма. Былі экскурсіі па гістарычных і літаратурных мясцінах (я выбраў старажытны Плоўдзіў з яго помнікамі антычных часоў і Бачкаўскі манастыр, затоены ў недаступных гарах). Былі прагляды фільмаў і канцэрт пасля заключнага пасяджэння ў оперным тэатры. І яшчэ было знаёмства з яркай і адначасова вельмі ўтульнай, нейкай лірычнай Сафіяй. Усюды — у музеях, бібліятэках, на вуліцах — тут вельмі дбаюць пра сваю гісторыю, ганарацца ёю, зберагаюць традыцыі нашай даўняй дружбы. Пра гэта сведчаць і назвы вуліц. Запісаў тыя, па якіх даводзілася хадзіць: Георгія Дзімітрова, Дзмітрыя Благоева, Генерала Скобелева, Князя Дандукова, Графа Ігнацьева, Кірылы і Мяфодзія, Хрыста Боцева, Патрыярха Яўцімія, Папа Багаміла, Цара Асена, Хана Аспаруха, Прафесара Г. Паўлава і гэтак далей і гэтак далей.**

**І былі сустрэчы з балгарскімі калегамі. Публіцыст Кірыл Джувінаў, з якім мы перапісваемся яшчэ са школьных часоў, паказаў мне «нестандартную» Сафію, куды звычайна не даходзяць турысты. У адным з кафэ завязалася гаворка з дырэктарам Нацыянальнага музея балгарскай літаратуры пісьменнікам Георгіем Свежыным. Ён з задавальненнем успрыняў вестку, што ў Мінску таксама арганізуецца Літаратурны музей і прасіў перадаць туды яго прапанову ўстанавіць творчыя кантакты. А заадно выказаў здзіўленне, чаму на кангрэсе няма Ніла Гілевіча і іншых «паслоў» балгарскай літаратуры ў Беларусі.**

Раз'язджаліся мы з Сафіі залацістым верасёўскім днём, удзячныя лёсу, што даў нам магчымасць асабіста спазнаць — няхай бегла — яшчэ адну славянскую краіну, па-паўднёваму яркую, яшчэ адзін славянскі народ, працавіты і таленавіты. Наступны славістычны кангрэс (пачулі мы на заключным пасяджэнні) адбудзецца ў 1993 годзе ў Чэхаславакіі — у Браціславе. Пяць год, якія засталіся да яго, — час немалы, але і зрабіць трэба багата. Калі па дарозе на вакзал я выпадкова аказаўся побач са старшынёй Савецкага камітэта славістаў акадэмікам М. І. Талстым, ён слушна пачаў папракаць беларусаў, што яны недаацэньваюць славяназнаўства. Падумаць толькі: нават славістычнага аддзялення ні ў водным з нашых універсітэтаў няма! Ды і маладой змены ў нас тут не відаць і не чуваць... Мне не заставалася нічога іншага, як ціха пагадзіцца з прадстаўніком славутага роду Талстых.

А праз дваццаць год, падумалася, чарга стаць «славістычнай сталіцай», відаць, дойдзе і да Мінска (бо Масква і Кіеў ужо такую магчымасць мелі). Дойдзе, вядома, калі мы на такі гонар заслужым.

Адам **МАЛЬДЗІС.**

---

**Бабуля піша пісьмы-просьбы Сталіну... дарма!**
**Ніхто ёй не адкажа. Боль пагрозна паківае.**
**І пятая ў Вялікую Айчынную вайна**
**Пра мужнасць і дзве пахаванкі на сыноў-салдат згадае**

**Бабуля піша пісьмы-просьбы Сталіну... адно**
**Знайшла ў старым куфэрку ўпотайкі мне цётка:**
**Яно ляжала з франтавымі пісьмамі сыноў,**
**Загорнутае перажоўклай саўінфармбюроўскай зводкай.**

**Бабуля піша пісьмы-просьбы Сталіну... пазней**
**Прызначыць мізер-пенсію дзяржава ёй рублямі.**
**Я помню, як крычала яна: «Любы мой» у сне.**
**І ад пытанняў засланялася пражытымі гадамі.**

**Бабуля піша пісьмы-просьбы Сталіну... балад**
**Я не пісала аніколі... хай чытач даруе.**
**Але радкі: «Вярніце беларуса да зямлі назад!»**
**Сібірская тайга праз пяць дзесяткаў год і сёння чуе.**

## *Беларуская дудка Уладзіміра Пузыні*

**Сталічнай школы шумная дзятва**
**І шалік змоўклай снежаньскае сіні.**
**І ажывае ў сценах горада трава,**
**Калі вякі іграюць дудкаю Пузыні.**

**— Вас, майстра, можна слухаць зноў і зноў,**
**А ён спыняе позірк свой на сыне.**
**І Мінск вяртае з выраю буслоў,**
**Калі вякі іграюць дудкаю Пузыні.**

**Сляза пітва не знае, хоць з вады.**
**Яна ў вачах, як магма, не застыне...**
**І рушыць музыка каменныя груды,**
**Калі вякі іграюць дудкаю Пузыні.**

**Даруй мне, Беларусь, былінны боль;**
**Ён, як агонь, успыхне ва ўспаміне —**
**Пачуццем верне — гром і гнеў прыбой,**
**Калі вякі зайграюць дудкаю Пузыні.**

**Дарог клубок завяжацца ў вузлы...**
**І ў Токіо, і ў Рыме, і ў Берліне**
**Пачуюць хай, як памяць раніць слых,**
**Калі вякі іграюць дудкаю Пузыні...**

**Ступае снег, як вартаўнік, за мной...**
**А я свой крок звяраю па каліне,**
**Што не стамляецца гарэць зімой,**
**Як дудкі рэстаўрыраваць Пузыня...**

Уладзімір Якаўлевіч ПУЗЫНЯ — прафесійны музыкант, рэстаўратар беларускіх народных інструментаў. Жыве і працуе ў Мінску.

## *Перасяленцы*

**Вясны пажар збалелы, нібы нервы:**
**Чарнобыля аскома — на гады!**
**І падае на крылы сонца неба.**
**І Прыпяць адплывае ад рукі:**

**І ў слове жах падзей: «Пе-ра-ся-лен-цы!»**
**Мае ж суседзі — з брагінскай зямлі —**
**Ліфт па-сялянску называюць сенцы.**
**І носяць на балкон пучок калін.**

**А пра Буйкі, што вёскай называлі,**
**Гавораць, як пра бога на крыжы...**
**І першацвету ліпавага хвалі**
**Расквечваюць над Мінскам шэпты: «Жыць...»**

**І дыялект палескі гасне ў зорах...**
**А гараджанам — сорам з мовы той,**
**Што мазалём бацькоў была заўчора,**
**А сёння называецца святой.**

**І што, мой век, сказаць у апраўданне**
**Ты можаш тым, хто сем бядот сустрэў,**
**І пры слязе пякельнага расстання**
**На далані радзімы не згарэў.**

**І, Беларусь, імя тваё і славу**
**Не зачарніў трагедыямі дня...**
**І болем выспелі ў палыну травы,**
**І ад Зямлі — дыхання не адняў.**

## *Эпілог пра Курапаты*

**Мінск здрыганецца словам: «Курапа-ты!»**
**Зялёны Луг расою вінаватай**
**Да промняў сонца травы перапpавіць.**
**І немату на голас пераплавіць.**

**Паўторыць стогны горасных пракляццяў**
**Пра трыццаць сёмы...**
**Праўдзе не схавацца!**
**Жалезным ідалам гісторыі не стаць.**
**Стамілася Зямля пра Боль маўчаць.**

**Сучаснік мой, адораны трывогай!**
**Знай, Памяць з Мужнасцю — адной дарогай**
**Ідуць праз сэрца роднае айчыны,**
**Якая раны часу не злячыла.**

**І ў скасцянелай надмагільнай сіні**
**Для мітынгу пратэсту знайшла сілы.**
**Згадала тых, хто быў ні ў чым не вінаваты,**
**Слязой назвала чорнай: «Курапа-ты!»**

Госці Мінска

# ХЛЕБ І ЛЯЛЬКІ

**Тэатр Пітэра Шумана «Брэд энд паппет» («Хлеб і лялькі») пасля роднае Амерыкі аб'ездзіў амаль увесь свет, але Савецкі Саюз наведаў упершыню. Праўда, сам Пітэр з жонкаю Элаю летась у лютым бралі ўдзел у Міжнародным форуме «За бяз'ядзерны свет і выжыванне чалавецтва», былі ў Маскве і Ленінградзе. Вячаслаў Палунін запрасіў іх да ўдзелу ў Караване міру, які мае адбыцца неўзабаве (часопіс «Театральная жизнь» абяцае май 1989 года).**

**Тэатр Шумана — своеасаблівы тэатр пляцу, вуліцы, шырокай адкрытай прасторы. Ягоны стваральнік даўно згубіў веру ў камерцыйны (так на амерыканскі лад называюць прафесійны) тэатр, яго ідэі, мастацтва, манеру акцёрскай ігры. У Шумана акцёр мусіць рабіць усё: гуляць з дзецьмі, гатаваць ежу, смяшыць, страшыць, спяваць, скакаць, і да ўсяго мець шырокі кругагляд, здаровую цікавасць да людзей і добразычлівы характар. Тэатр дужа шануе сваю незалежнасць, грошы зарабляе для сябе сам — спектаклямі і продажам кніжак, плакатаў і малюнкаў да сваіх спектакляў; пры гэтым на радзіме ў Амерыцы з дзятвы часцяком грошай не патрабуюць, а з дарослых на амерыканскі пералік бяруцца капейкі.**

**Калі памёр бацька Элы, тэатр «атабарыўся на зямлі». Гэта значыць, што ўзімку 6—8 акцёраў зажылі разам з сямейнікамі Шумана на спадчыннай ферме, а 4—6 акцёраў — у суседніх вёсках, каб штодня наведваць рэпетыцыі. Улетку, пад час гастроляў, трупа можа налічваць да 60 чалавек — добраахвотных памочнікаў і вялікіх аматараў глядацкіх апладысментаў. Іх цяжка назваць акцёрамі, але ў любові да мастацтва яны не саступяць прафесійнікам.**

**Жыццё на ферме — сад і гарод, свойская жывёла, якая суседзіцца ў хляве з вялікімі Шуманавымі лялькамі, нарыхтоўка варэння, ціскання соку, выраб кляновага сіропу і печыва: так бы мовіць, харчовага запасу для тэатра, які, паводле Шумана, важны таксама, як і хлеб. Хлеб Пітэр пячэ сам. Лялькі майструюць разам...**

**— Пітэр, вы свой шлях канчаткова вызначылі ў 1961 годзе, стварыўшы «Брэд энд паппет». Ці запрашалі вы з таго часу каго-небудзь з рэжысёраў на спектаклі?**

**— Не. У рэжысуры заўсёды аддаю перавагу самому сабе.**

**— Паводле традыцыі тэатра пляцу, ці бярэ ўдзел ваш тэатр у палітычных маніфестацыях, мітынгах і да т. п.?**

**— Вядома. Больш за тое: мы сваімі спектаклямі пэўным чынам імкнёмся змагацца з сацыяльнымі несправядлівасцямі і абавязкова адгукаемся на шматлікія палітычныя падзеі. Аднак весці ў СССР палітычнае відовішча з крытыкаю амерыканскага ўрада і ладу жыцця было б залішнім, таму мы абралі спектакль «Жанна д'Арк» — з агульначалавечымі праблемамі.**

**— Ці адчувае ваш тэатр сваю нацыянальную прыналежнасць?**

**— Мне было б смешна назваць свой тэатр нацыянальным амерыканскім. Нас займаюць агульначалавечыя праблемы. Да таго ж, у трупе працуюць акцёры з Канады, Чылі, Заходняй Германіі і г. д. Праўда, з французскаю ці канадскаю трупаю гледачы нас не блытаюць. Магчыма, вызначаць нашу прыналежнасць — справа гледачоў ці крытыкаў.**

**— Як вы ставіцеся да апошніх?**

**— Час ад часу зазіраю ў «Тэатр мэгэзін», але стараюся як мага спрытней гартаць старонкі. Асаблівае веры ім не даю.**

**— Вы прыхільнік чысціні жанру, адзінства формы, стылю, ці не супраць змешваць іх?**

**— Тэатр мусібыць розным.**

**— Як, на вашу думку, ці ў стане нехта кіраваць вамі і вашым мастацтвам: урад, народ, жонка, трупа, неабходнасць зарабіць?**

**— Кіраванне мастаком — самая заганная ў свеце практыка. Савецкі Саюз мусіў пераканацца ў гэтым на ўзорах мінулых часоў. Але падобнае надараецца і ў Амерыцы, праўда, «тэатры пад кіраўніцтвам» на маёй памяці страчвалі імпэт і сілы для творчасці. Як правіла, яны хутка зачыняюцца.**

**— Ці намагаўся хто-небудзь пакіраваць вамі?**

**— Я да гэтага не дапускаў.**

**— Ці заўсёды вы ставіце толькі тое, што хочаце?**

**— Так, заўсёды.**

**— А ці заўсёды фантазія і майстэрства забяспечваюць «Брэд энд паппет» матэрыяльна?**

**— Першае паведамленне з Мінска было пра білеты на нашы спектаклі. Іх прадалі дарэшты.**

**Інтэрв'ю брала Жанна ЛАШКЕВІЧ.**

# ТОЛЬКІ РАЗАМ

Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ

**Драматургія і рэжысура — аспекты адной праблемы**

АПОШНІМ часам зрабілася модным ганіць тэатр. Ён, маўляў, непапраўна адстаў ад жыцця. Драматургі не ведаюць, пра што пісаць (не ўгнацца за публіцыстыкай у газетах і часопісах). Рэжысёры працягваюць бясплённа паўтараць знойдзеныя раней схемы і штампы. Акцёры не маюць магчымасцей для выяўлення сваіх творчых індывідуальнасцей. Дырэктары-адміністратары бачаць сэнс тэатральнага эксперыменту ў камерцыі. Крытыкі і тэатразнаўцы, адчуўшы, што цяпер можна ўсё і пра ўсіх, нібы дамовіліся: «Ну вось цяпер мы ім пакажам!»

Вядома, ва ўсіх пералічаных вышэй «грахах» вінаваты перш за ўсё тэатр. Але ён існуе, працуе, спрабуе разабрацца ў тым, што адбываецца навокал, шукае свае, уласцівыя толькі яму сродкі мастацкай вобразнасці. Як бы дасціпна ні перакручвалі славутае выслоўе К. Станіслаўскага, але, калі гаварыць сур'ёзна, тэатр усё ж пачынаецца з драматургіі, без яе немагчыма ніякае сцэнічнае мастацтва.

Ці маем сёння неабходную новую нацыянальную драматургію, якая б змагла дапамагчы тэатру выконваць сярод іншых і функцыю аховы мовы, функцыю, якая сёння набывае амаль першаступеннае значэнне? Бо моўная сітуацыя, якая склалася на Беларусі — у выніку закрыцця беларускіх школ і шмат якіх іншых прычын цэлае пакаленне не ведае нацыянальнай мовы,— разбуральна дзейнічае і на тэатр. Мне здаецца, менавіта тэатр у цяперашняй сітуацыі, гэтак жа, як на пачатку станаўлення кожнай нацыі мастацкі пераклад, можа і павінен выконваць ахоўную функцыю ў адносінах да нацыянальнай мовы як атрыбута ўсёй агульнанацыянальнай культуры.

Як вярнуць беларускаму тэатру ролю цэнтра прапаганды чысціні і высокай культуры беларускай мовы,— гэта пытанне не можа не хваляваць сёння кожнага, хто мае дачыненне да нацыянальнага тэатра. (Дарэчы, гэткая ж праблема сёння паўстала ледзь не ва ўсіх нацыянальных тэатрах краіны. Пра яе цяпер гавораць і пішуць нават латышы, хоць зусім нядаўна ў тэатры імя А. Упіта і Я. Райніса спецыяльна і рэгулярна вазілі гледачоў з усіх населеных пунктаў Латвіі, каб яны маглі ў тэатрах пачуць чыстую і сапраўдную латышскую мову)

**Зыходзячы з высокіх мастацкіх крытэрыяў, з вышыні той эстэтычнай «планкі», узнятай падзеямі і пераменамі ў нашым жыцці і культуры ў апошнія тры гады, казаць пра наяўнасць у нас такой драматургіі, якая дапаможа тэатру вырашыць і гэтую праблему, яшчэ ранавата. Разумею: вельмі цяжка развеяць міф аб тым, што беларускія драматургі напісалі многа цікавых п'ес, а рэжысёры беларускіх тэатраў не хочуць іх ставіць. Акрамя кампліментарных бібліяграфічных нататак з прычыны вельмі рэдкага ў нас выхаду зборнікаў п'ес таго ці іншага аўтара, у нас поўнасцю адсутнічае літаратурная крытыка драматургіі як жанру перш за ўсё літаратуры і менавіта літаратуры. Таму некаторыя драматургі,— творцы, бясспрэчна, здольныя, якія маюць вопыт супрацоўніцтва з тэатрамі, дзе ставіліся іх творы, часам падыходзяць да п'есы як да сцэнарыя, матэрыялу, лібрэта для будучага спектакля, а не як да жанру мастацкай літаратуры з усімі патрабаваннямі, якія дыктуюць законы гэтага жанру. Тут я бачу, калі можна так мовіць, разгалінаванне важнай праблемы, вельмі слушна і шчыра ўзнятай Л. Дранько-Майсюком у яго дыскусійным артыкуле ў «ЛіМе», праблемы, якую, як бы нам ні хацелася, нельга ігнараваць ці прынізіць яе значэнне, спасылаючыся на ўвесь арсенал дасягненняў беларускай дакастрычніцкай і савецкай літаратуры. Бо драматургічны жанр патрабуе большай за іншыя жанры літаратуры ўвагі да формы, да яе дасканаласці, да пабудовы і да кампазіцыі твора, да паўнаты і шматфарбнасці характараў персанажаў, да мастацкай праўды канфлікту і яго вырашэння.**

Як правіла, драматургія як жанр развівалася перш за ўсё ў нацыянальных літаратурных кантэкстах, а потым у сваім сцэнічным увасабленні. Гады і дзесяцігоддзі, напрыклад, аддзялялі многія шэдэўры драматургіі ад іх пастановак на сцэне («Гора ад розуму» А. Грыбаедава, «Барыс Гадуноў» А. Пушкіна, «Свае людзі — палічымся» А. Астроўскага і іншыя). Найвышэйшыя дасягненні гэтага жанру ў XX стагоддзі — «Катрынка» А. Платонава і «Публіка» Ф. Г. Лоркі — наогул дагэтуль нідзе не пастаўлены. Рэальнасць развіцця такая, што тэатр прыходзіць да высакаякаснай драматургіі, а не наадварот; тэатр ідзе за драматургіяй у сваім развіцці як від мастацтва. Гэта пацвярджаецца гісторыяй узаемасувязей «драматургія — тэатр» і на Беларусі. Такія выдатныя творы, як «Паўлінка» і «Раскіданае гняздо» Я. Купалы, дыктавалі рэжысёрам пошукі сцэнічнай формы ў адпаведнасці з канкрэтнымі сацыяльна-эстэтычнымі задачамі часу (усё тая ж еднасць «сцэна — глядач»), выяўленчая палітра нацыянальнага тэатра штораз узбагачалася пасля з'яўлення як твораў беларускай літаратуры п'ес «Бацькаўшчына» К. Чорнага, «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы», «Трыбунал» А. Макаёнка, «Трывога» і «Соль» А. Петрашкевіча, «Званы Віцебска» У. Караткевіча, «Шрамы» Я. Шабана, «Парог», «Вечар» і «Радавыя» А. Дударава і іншых. За літаратурай, зразумела, крочыла рэжысёрская думка, пераносячы на сцэну прозу Я. Коласа, К. Чорнага, І. Мележа, В. Быкава, І. Чыгрынава. Што зробіш, беларуская літаратура была заўсёды вядомая ва ўсім свеце якаснымі, а не колькаснымі паказчыкамі (рыса, пра якую з гонарам гаварыў яшчэ М. Багдановіч). Падыходзячы да ацэнкі кожнага твора нацыянальнай драматургіі саюзных рэспублік, нельга забываць, што (зноў-такі спецыфіка жанру) вартасць гэтых твораў адразу ж вымяраецца агульнасаюзным, а ў апошнія гады ўсё болей і сусветным эстэтычным узроўнем. Міжнацыянальны кантэкст сёння як ніколі раней неабходны для развіцця мастацтва, асабліва тэатральнага. П'еса, увасобленая ў спектаклі, сёння адразу становіцца фактам, з'явай не толькі адной сваёй нацыянальнай культуры і выносіцца на суд не толькі свайго гледача і сваёй крытыкі. Як дакладна прадбачыў М. Багдановіч: «...Усясветнай культуры — свой дар». Рэжысёры гэта добра ведаюць і адчуваюць, практыка апошніх дзесяцігоддзяў паказвае, што пэўныя з'явы нацыянальнага тэатра на Беларусі прызнаюцца за дасягненні толькі тады, калі яны высока ацэнены ў Маскве, на міжрэспубліканскіх, саюзных або на міжнародных фестывалях.

Таму хочацца паспрачацца з меркаваннямі А. Петрашкевіча, што «феномен развіцця» сучаснай беларускай драматургіі —у яе адрыве ад тэатра, ад тэатральнай практыкі («Мастацтва Беларусі», № 6, 1988 г.). Лепшыя творы беларускай драматургіі заўсёды ставіліся нацыянальнымі тэатрамі рэспублікі. І дагэтуль у рэпертуарнай афішы Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы самы высокі працэнт твораў нацыянальнай драматургіі ў параўнанні з іншымі нацыянальнымі акадэмічнымі тэатрамі саюзных і аўтаномных рэспублік. Магчыма, гэты рэпертуар абнаўляецца недастаткова хутка. Але тут слова — за драматургамі і толькі за драматургамі.

**П'есы, вядома, пішуцца. Але ці адпавядаюць яны сённяшняму ўзроўню ідэйна-мастацкіх патрабаванняў тэатра і гледачоў да гэтага складанага і адказнага жанру? Крытыкі не адказваюць на гэта пытанне, маўчаць. Не прыпомню, калі на пасяджэннях секцыі драматургіі СП БССР ішоў бы канкрэтны крытычны разгляд той ці іншай п'есы. П'еса — драма, камедыя, трагедыя — як твор, як жанр літаратуры застаецца па-за ўвагай і секцыі крытыкі і тэатразнаўства СТД БССР, ёй для абмеркавання патрэбны толькі гатовы спектакль. На жаль, і разгляд спектакляў часам у нас адбываецца павярхоўна, без разумення асаблівасцей задумы як аўтара, так і рэжысёра. Напрыклад, калі не хапае канкрэтнай аргументацыі, на пацеху сваім жа калегам-крытыкам (маўляў, глядач дурны, ён нічога не разумее, скажам, калі яму падабаецца «Мудрамер» М. Матукоўскага ў купалаўскай пастаноўцы) прыдумваецца байка пра цара Мікалая ІІ, які нібыта пераплятаў кнігі А. Аверчанкі. Сапраўды, што ў агародзе, а што ў Кіеве... Вядома, сёння кожны мае права казаць, што хоча, толькі ці варта падхопліваць нашаму «ЛіМу» такую вельмі сумніцельную спробу аргументацыі талінскага крытыка, які на фестывалі ў Калінінградзе яўна імкнуўся забаўляць і эпатаваць сваіх калег з суседніх рэспублік. А што да праблем камедыі — немагчымасць распазнаць дурня,— дык драматург М. Матукоўскі ўсё ж узняў яе раней за сваіх калегаў-газетчыкаў, і «сур'ёзная» паласа, падрыхтаваная А. Марозам у «Літаратурцы» 1 чэрвеня гэтага года («Дурні, дурні, дурні без ліку...»),— яшчэ адзін доказ важнасці і значнасці гэтай праблемы.**

Міф жыве, шмат хто дае яму веры: ва ўсім, маўляў, вінаваты рэжысёры. Часам дадаюць: і Міністэрства культуры БССР. Ці зрушыцца пры такім «статусе кво» «карабель» (тэрмін Г. Каржанеўскай, «Звязда», 20.5.88 г.), ці вырашыцца праблема? Вядома, не. Міністэрства культуры БССР, адгукнуўшыся на запатрабаванні часу, прыняло рашэнне абавязаць абласныя тэатры, якія іграюць па-руску, падрыхтаваць і ўключыць у свой рэпертуар і спектаклі на беларускай мове. Сумняваюся ў плённасці і мэтазгоднасці гэтага загаду не толькі таму, што акцёру цяжка іграць сёння на адной мове, заўтра — на іншай, гэта адмоўна дзейнічае і на творчы працэс, і на ўзровень ведання акцёрамі адной і другой мовы. Такі «білінгвізм» ніколі не дасць плённых вынікаў. Рэальней было б ставіць пытанне аб стварэнні беларускамоўных акцёрскіх труп у абласных тэатрах. Можа, варта пачынаць са спектакляў для дзяцей, як гэта робяць у Брэсцкім аблдрамтэатры, рыхтуючы спектакль па цікавай п'есе-казцы З. Дудзюк «Кароль Мыльны Пухір» на мове арыгінала? Але галоўная прычына сумненняў у наступным: а што ж могуць паставіць сёння на беларускай мове абласныя тэатры, ці ёсць у іх пэўны выбар твораў нацыянальнай драматургіі, вартых сцэнічнага ўвасаблення? Трэба ўлічыць, што кожны тэатр заўсёды імкнецца да арыгінальнага рэпертуару, не паўтараць жа ўвесь час пастаўленае ў Мінску і Віцебску. Можа, лепей было б вырашаць задачы прапаганды беларускай мовы, культуры, у тым ліку і драматургіі ў абласцях рэспублікі іншым шляхам: праводзіць рэгулярна абавязковыя штогадовыя дні, тыдні або дэкады купалаўскага і коласаўскага тэатраў у кожным абласным тэатры і ў такіх буйных гарадах, як Полацк, Наваполацк, Пінск, Мазыр, Баранавічы, Барысаў, Маладзечна, Орша, Салігорск, Светлагорск і іншых, дзе няма пакуль яшчэ сваіх прафесійных тэатраў.

Цяпер дапусцім, што маюць рацыю тыя, хто стварылі і паверылі ў вышэйпамянёны міф. Альбо проста раптам (ці не раптам) у тэатрах з'явіліся новыя цікавыя беларускія п'есы. Вядома, што ніводная п'еса сама па сабе не ўбачыць святла рампы, калі яна не зацікавіць рэжысёра і калі ён не захоча яе паставіць. І тут, мне здаецца, варта было б (і ў першую чаргу тым, хто кіруе ў рэспубліцы тэатральнай справай) карэнным чынам памяняць нігілістычнае стаўленне, скептычныя адносіны да рэжысёраў, як бы такое стаўленне ні падтрымлівалі некаторыя нашы драматургі і крытыкі. «Вызначыць правілы гонару ў стасунках паміж беларускімі рэжысёрамі і беларускімі драматургамі не ўдасца, напэўна, ніколі»,— сцвярджае Л. Грамыка ў часопісе «Мастацтва Беларусі» (№ 1, 1988 г.). Думаю, што не да «правілаў гонару» тады, калі рэжысура чуе ў свой адрас толькі адны папрокі: не хочаце, маўляў, ставіць нацыянальную драматургію, і ўсё тут.

Амаль усе рэжысёры на ўласным вопыце пераканаліся: ставіць п'есу беларускага аўтара... не прэстыжна. Рэдка калі пачуеш слова падтрымкі, часцей за ўсё цябе чакае разнос, неразуменне задумы крытыкамі, адсутнасць грамадскай зацікаўленасці ў выніках тваёй працы і, нарэшце, хоць бы маральная (не кажучы ўжо пра матэрыяльную) узнагарода за поспех, калі ён і напаткае цябе. Усе рэжысёры, напрыклад, добра ведаюць, колькі крытычных закідаў, неабгрунтаваных, вульгарызатарскіх папрокаў, колькі разносных артыкулаў давялося прачытаць, пачуць, перажыць галоўнаму рэжысёру тэатра імя Я. Купалы В. Раеўскаму. Але ж у яго даволі вялікі вопыт увасаблення на сцэне беларускай нацыянальнай драматургіі. Некаторыя яго спектаклі, такія, як «Трыбунал» і «Пагарэльцы» А. Макаёнка, «Брама неўміручасці» К. Крапівы, «Апошні шанц» В. Быкава, «Плач перапёлкі» І. Чыгрынава, «Парог» і «Радавыя» А. Дударава, сталі прыкметнымі з'явамі, этапнымі ў гісторыі савецкага шматнацыянальнага мастацтва. А колькі грамадзянскай мужнасці патрабавалася, каб паставіць у гады брэжнеўскай застойнай рэакцыі «Пагарэльцаў», якіх ніхто, акрамя В. Раеўскага, так і не адважыўся ўвасобіць на сцэне. Творы беларускіх аўтараў ставіў В. Раеўскі ў Якуцку, у Кі-

*Віншуем!*



**Спаўняецца 70 год з дня нараджэння пісьменніка Алеся Бажко. Праўленне СП БССР накіравала яму прывітальны адрас з пажаданнем добрага здароўя, новых творчых поспехаў.**

Супрацоўнікі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» таксама далучаюцца да гэтага віншавання і зычаць юбіляру ўсяго самага добрага ў жыцці і творчасці.

# «Палескія зоры» ў Іспаніі

**Музей народнага ансамбля песні і танца «Палескія зоры» Пінскага будтрэста № 2 папоўніўся новымі арыгінальнымі экспанатамі. Гэта макет старадаўняй крапасной вежы іспанскага горада Тэруэля, сувенірныя керамічныя блюды з гербамі розных іспанскіх гарадоў, маляўнічыя афішы міжнароднага фальклорнага фестывалю, праграмы канцэртаў, фотаздымкі. Усе яны будуць нагадваць калектыву пра незабыўны тыдзень, праведзены ў сонечнай Іспаніі.**

**Сваімі ўражаннямі дзеліцца старшыня савета ансамбля Леанід КОЛБ:**

— Вельмі цяжка ў кароткай гутарцы расказаць пра ўсе падзеі і сустрэчы на іспанскай зямлі. А пачаць хацелася б са сталіцы Францыі. Тут нас сустрэў прадстаўнік аргкамітэта фестывалю і работнік савецкага пасольства. Нам далі магчымасць зрабіць двухгадзінную экскурсію па Парыжы.

Кароткі адпачынак, і вось ужо нас запрашаюць заняць месцы ў камфартабельным аўтобусе, на якім трэба будзе праехаць больш за 600 кіламетраў да іспанскай граніцы.

Непрыкметна праляцелі 7 гадзін. Першы пункт нашага знаходжання — горад Андора. Тут ансамбль павінен быў даць два канцэрты, але затрымалася ў дарозе грэчаская фальклорная група. А паколькі канцэрты былі аб'яўлены загадзя, арганізатары фестывалю папрасілі пайсці насустрач і выступіць яшчэ на дзвюх пляцоўках. Вядома, гэтая просьба была выканана. І ўзнагародай сталі гарачыя апладысменты гледачоў. Мэр Андоры ўручыў ансамблю скарбонку з бронзавай таблічкай, на якой выграваваны словы ўдзячнасці «Палескім зорам» за яркае нацыянальнае мастацтва.

Дарэчы, горад у тыя дні адзначаў 375 гадоў з дня заснавання, — і паўсюль мы бачылі гэтую лічбу. Рамеснікі бойка гандлявалі юбілейнай прадукцыяй. Адзін такі выраб—каляровае керамічнае блюда з гербам Андоры — калектыву паднеслі ў дарунак. На наступны дзень у мясцовай газеце з'явілася заметка пад загалоўкам «Рускія пакарылі іспанцаў». Увогуле, усе 10 канцэртаў прайшлі з нязменным поспехам. Доўжыліся яны па дзве з лішкам гадзіны, таму што большасць нумароў даводзілася выконваць на «біс».

Мы пабывалі ў іспанскіх гарадах Алганішч, Галанда, Алгарыса, Рубелос дэ Мора, Албарас, Галамоха. Кожны з іх нечым цікавы, хоць ёсць і шмат агульнага. У любым гарадку можна ўбачыць замкі, крэпасці, вежы, плошчы са старажытнымі саборамі.

Самае сур'ёзнае выпрабаванне чакала ансамбль у Тэруэле—адміністрацыйным цэнтры правінцыі, дзе адбылася заключная частка фестывалю. Тры дні і тры ночы цягнулася свята. Я не агаварыўся. Канцэрты фальклорных калектываў на сцэне летняга тэатра, які змяшчае 7 тысяч гледачоў, працягваліся да 5 гадзін раніцы.

А напярэдадні было ўрачыстае маляўнічае шэсце дэлегацый па вуліцах горада. Уступаючы на цэнтральную плошчу, кожны калектыў паказваў нейкі нумар, свайго роду візітную картку. У дзень адкрыцця мы выканалі «Лявоніху», а ў дзень закрыцця — «Калінку».

Хвалюючыя мінуты перажылі артысты, калі дыктары аб'явілі пра тое, што на фестываль прыбыў ансамбль «Палескія зоры» з Савецкага Саюза. У гэты час быў узняты сцяг нашай краіны і прагучаў Гімн СССР.

Увесь горад выйшаў на вуліцы. Не цяжка было пераканацца, як у Іспаніі любяць народную творчасць, народную культуру, як паважліва ставяцца да фальклору іншых краін. Нездарма амаль у кожнай правінцыі штогод праходзяць свае міжнародныя фальклорныя фестывалі.

У Тэруэле выступалі самадзейныя артысты з Югаславіі, Польшчы, Грэцыі, Парагвая, Швецыі, Галандыі і Іспаніі. Мы пазнаёміліся з іх нацыянальным мастацтвам не толькі пад час канцэртаў. Адбыліся сяброўскія творчыя сустрэчы з кожнай дэлегацыяй. Гаворка ішла пра народную творчасць, пра тое, як яе развіваць і ўзбагачаць. А яшчэ пра тое, што такія фестывалі памагаюць народам лепш пазнаваць адзін аднаго, а гэта самы правільны шлях да ўзаемаразумення і міру.

Вось і я смела магу сказаць, што далёкая Іспанія стала нам цяпер значна бліжэй. Мы ўбачылі працавітых, таленавітых народ, з высокай культурай.

Афіцыйна на фестывалі месцы не прысуджаліся. Але на развітанне дырэктар фестывалю Рамон Віша сказаў нам, што журы абмяркоўвала кожную паказаную праграму і аднагалосна лічыць наша выступленне лепшым. Гэтыя словы, не схаваю, было радасна пачуць.

Запісаў С. ШАПІРА.

*На атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР*

**Творы заслужанага дзеяча мастацтваў БССР А. Мдзівані — Пятая і Шостая сімфоніі — вылучаны сёлета на атрыманне Дзяржаўнай прэміі рэспублікі. Днямі на рэдакцыйным стале з'явіліся, амаль адначасова, дзве карэспандэнцыі, аўтары якіх — малады крытык В. Чарняк і кандыдат мастацтвазнаўства дацэнт БДК А. Друкт — дзеляцца сваімі ўражаннямі і думкамі пра музыку кампазітара. Абодва допісы, якія ў нечым дапаўняюць адзін аднаго, прапануем увазе чытачоў.**

# Прыслухацца яшчэ...

У палітры кампазітара багата разнастайных фарбаў, якія даюць яму магчымасць адлюстроўваць свет глыбока і праўдзіва. Вось — музыка А. Мдзівані, якая звярнула на сябе ўвагу яшчэ ў 70-ыя гады, прывабіла сваёй праўдзівасцю і характвом, глыбінёй думкі і гуманістычнай скіраванасцю.

Беларусь, яе культура, беларускі народ з яго гістарычным мінулым і сённяшнім днём, — галоўная тэма творчасці кампазітара. Ці не таму так трывала ўвайшла і харавая, і вакальна-сімфанічная, і інструментальная музыка А. Мдзівані ў рэпертуар розных калектываў рэспублікі?

Важкімі старонкамі ў сучаснай беларускай музыцы сталіся Пятая і Шостая сімфоніі. Пятая сімфонія («Памяць зямлі») — гэта твор, які адкрывае новае ў галіне музыкі для народнага аркестра. У аснове яе — тэма беларускай гісторыі, звязаная з гераічным мінулым і сучаснасцю, культурай і народам, які яе стварае. Вывучэнне архітэктурных помнікаў, лёсу іх стваральнікаў уразіла кампазітара і прывяло да думкі — стварыць своеасаблівы летапіс рэспублікі, якая зрабілася для яго другой радзімай.

«Памяць зямлі» складаецца з пяці паэм, кожная з якіх нібыта адлюстроўвае ў народнаркестравым гучанні памяць гісторыі. «Сафійя» сімвалізуе архітэктурны вобраз Сафійскага сабора ў Полацку; «Мсціслаў» дае абагульнены вобраз старажытнага беларускага горада з яго серабрыстымі купаламі і старымі царкоўнымі фрэскамі; «Вежа» ўзнаўляе карціны бітваў нашых продкаў; «Тур» у алегарычнай форме перадае стойкасць і магутнасць беларускага народа, які здолеў процістаяць ворагу, і разам з тым — прыгажосць старадаўняга Турава. Нарэшце, «Знамен», нaконт якога кампазітар кажа так: «Знамен» — асаблівы знак, якім пазначана наша зямля: не кожны народ мае такія помнікі, такую старажытную і слынную гісторыю, як беларускі. Хацелася ў музыцы перадаць гонар і радасць за нашу зямлю, прыроду і яе характва, жыццё. Я пераканаы, што кожны з нас павінен зрабіць усё, каб у наш час не даць загінуць гэтаму характву. Мае думкі і ўвасобіліся ў музыцы».

Гордае і велічнае гучанне Пятай сімфоніі захапляе характвом і шчырасцю музычнага выказвання, прымушае нас, беларусаў,яшчэ і яшчэ раз да яе прыслухацца, каб, можа, глыбей зразумець тое сапраўдна-спрадвечнае, што захоўваецца ў зямлі нашай.

«Памяць зямлі» звязана з наступнай, Шостай сімфоніяй («Полацкія пісьмёны») гістарычнай тэматыкай, глыбінёй думкі. У аснове зместу — глыбокая гуманістычная ідэя, звязаная з дзейнасцю вялікіх беларускіх асветнікаў Ефрасінні Полацкай, Францыска Скарыны і Сімяона Полацкага. Сімфонія двухчасткавая. У першай частцы — яркія, запамінальныя вобразныя характарыстыкі, у другой (вакальнай) апяваюцца вялікія ідэі, асветніцтва. Музыка сімфоніі глыбока пранікае ў душу сучасніка, кранае нацыянальнай адметнасцю гучання, высакародным зместам і мудрай прыгажосцю, сваім нетаропкім «характарам», што нагадвае выслоўі старажытных філосафаў. Арыгінальная мастацкая задума твора: А. Мдзівані трактуе яго як дзве часткі адной кнігі, і старонкі партытуры прыпадабняюцца да старонак летапісу, што распавядаюць пра мінулае і цяперашні дзень Беларусі. У музыцы гэтай сімфоніі цудоўнае ўсё: тут мы чуем выдатны распеў хору, майстэрскую аркестроўку, адзначаем тэмбравую шматфарбнасць і высокае пачуццё формы, уласцівае аўтару.

Абедзве сімфоніі неаднаразова гучалі ў канцэртах, і поспеху іх спрыяла пераканаўчая трактоўка дырыжора М. Казінца і хормайстра В. Роўды.

Пятая і Шостая сімфоніі А. Мдзівані — новая вяха ў беларускім сімфанізме. Наватарства кампазітара выявілася ў сферы сродкаў музычнай выразнасці — злучэнне народна-аркестравага гучання і акадэмічнага хору. Ясна адчувальны і індывідуальны стыль аўтара, яго пазітыўнае светаўспрыманне, сталасць яго творчых памкненняў. Глыбіня зместу, гуманістычнасць ідэй вызначаюць мастацкую каштоўнасць абедзвюх сімфоній.

**Валянціна ЧАРНЯК.**

# ВОБРАЗ СПАДЧЫНЫ ДУХОЎНАЙ

Разнастайная сучасная беларуская музыка. Яна складаецца з твораў кампазітараў, розных па стылі і манеры выказвання, па светаадчуванні, характары і тэмпераменце, узросце, вопыце і таленце. Але ядро яе, своеасаблівы стрыжань — праца кольіх найбольш адметных і значных аўтараў, без якіх немагчыма ўявіць аблічча сённяшняга музычнага мастацтва рэспублікі. І ў іх ліку — і я пераканаы, з гэтым пагодзяцца ўсе мае калегі-музыканты, — і Андрэй Мдзівані.

Дваццаць гадоў ведаю яго і як чалавека, і як кампазітара. Памятаю сімфанічную паэму «Фрэскі», з якой фактычна пачаўся яго творчы шлях: створаная яшчэ студэнтам Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, яна выклікала немалы рэзананс і нездарма затым была апублікавана ў Ленінградзе і запісана на пласцінку. Потым былі араторыі «Ванька-ўстанька» і «Вольнасць», вакальныя цыклы на вершы Г. Апалінэра (у перакладзе Э. Агняцвет) і К. Случэўскага, шматлікія сімфанічныя опусы (лепшыя з іх —сімфоніі, «Дыялект», «Асіната», «Метамарфозы па Расіні»). Былі дзівосна высакародныя ў сваім характве хоры (каля ста), музычная камедыя «Дзяніс Давыдаў» і, вядома, бліскучыя і эфектныя п'есы для Дзяржаўнага народнага аркестра БССР імя І. Жыновіча, што шмат у чым паспрыялі прафесійнаму росту і абнаўленню гэтага слыннага калектыву.

Кожная прэм'ера А. Мдзівані для мяне—падзея, і я ведаю, што гэтаксама ставяцца да яго музыкі і многія іншыя. І гэта не дзіўна: творы Мдзівані амаль заўжды нясуць у сабе каліўца адкрыцця —гукавога, тэхналагічнага, эстэтычнага. Гэта кампазітар, зусім не схільны плысці па камфартабельным рэчышчы слыхавай інерцыі. Ды і новае дзеля новага—зусім не ягонае крэда: выдумка і вынаходлівасць цалкам падпарадкаваны галоўнаму ў яго мастацтве — сцвярджэнню Прыгажосці і Гармоніі.

Апошнія творы А. Мдзівані —перадусім Пятая і Шостая сімфоніі — пазначаны асаблівай пячаткай адухоўленасці, тым, што мы называем «іскрай боскай» і што асабліва відаць у творах з арганічным і рэдкім сплавам мастацкасці, прафесіяналізму і грамадзянскасці.

Абодва творы паяднаны адной ідэяй: яны звернуты ў мінуўшчыну беларускай культуры і ўтвараюць своеасаблівую гістарычную дылогію ў гуках. Пятая сімфонія «Памяць зямлі», напісаная для хору і аркестра беларускіх народных інструментаў, складаецца з пяці паэм—у іх чаргаванні раскрываюцца мастацкія вобразы архітэктурных помнікаў старажытных гарадоў Беларусі. У аснове зместу Шостай сімфоніі «Полацкія пісьмёны» (для хору і сімфанічнага аркестра) — ідэя Асветніцтва, увасобленая праз вобразы Ефрасінні Полацкай, Францыска Скарыны і Сімяона Полацкага. Пры гэтым мастацкі метад кампазітара далёкі ад традыцыйнага. Мне ўяўляецца, што галоўны герой сімфоній — наш сучаснік, які памятае пра свае карані, ганарыцца імі і таму ўзбагачаны духоўнай мудрасцю папярэдніх пакаленняў.

Увага да нацыянальнай тэмы — адметная рыса музыкі Мдзівані з першых яго твораў. Ды раней яе вырашэнне звязвалася найперш з «фальклорна - этнаграфічнай» трактоўкай — вяршыняй тут былі канцэртныя п'есы для аркестра народных інструментаў. Цяпер жа кампазітар выводзіць гэтую тэму на больш высокі ўзровень філасофска - этычнага абагульнення. Думаецца, Пятую і Шостую сімфоніі можна назваць гісторыка - патрыятычнымі творамі: ідэя гістарычнай памяці непарыўна звязана тут з зацвярджэннем вобраза Радзімы, Бацькаўшчыны, Спадчыны.

Маштабнасць задумы, мастацкая пераканальнасць і арыгінальнасць увасаблення гэтай задумы, на мой погляд, вылучаюць Пятую і Шостую сімфоніі А. Мдзівані ў кантэксце сённяшняга жыцця беларускай музыкі. Цёпла прынятыя слухачамі, гэтыя творы ўспрымаюцца як значныя дасягненні не толькі самога кампазітара, але і ўсёй кампазітарскай арганізацыі рэспублікі. Таму я лічу заканамерным і слушным іх вылучэнне на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР.

**Аляксандр ДРУКТ.**

 

ся, якім чынам на станцыі зноў змянілася ўлада і пачалі гаспадарыць *раззлаваныя сваімі няўдачамі* калчакаўцы. Нашу сям'ю яны выселілі ў лазню, а ў доме з'явіліся пастаяльцы — афіцэры: ім было зручна, хата чыстая, станцыя цераз дарогу... Маці пускалі на кухню, за што яна была абавязаная пячы на ўсіх хлеб і гатаваць абед. У нашай пуні пасялілася кампанія ўральскіх казакаў: побач, пад навесам, стаялі іхнія коні; ля пуні, абапертыя на дах, месціліся даўжэзныя казацкія пікі з павостранымі канцамі. На падворку і ў доме стала раптам цесна, людна, шумна. Усё зрабілася, як чужое, не наскае.

Казакі былі зухаватыя вясёлыя мужыкі ў чорных футраных шапках, з даволі ладнымі барадамі. Яны шмат спявалі, шмат рэзаліся ў карты, забаўлялі мяне, паказваючы, як чысцілі, «сярэдзіну» карабінаў. Яны вельмі паважліва ставіліся да маці, называлі яе, як усе шуміхінцы, «духтаршай», дапамагалі па гаспадарцы: seклі дровы, насілі ваду з калодзежа, палілі печ, абіралі бульбу. Ды, нягледзячы на гэтую дапамогу, маці было цяжка забяспечваць харчам афіцэраў, што пасяліліся ў доме. Туды нас, дарэчы, не пускалі. Там заўжды было шумна, там безупынку пілі, а да ўсіх навакольных ставіліся насцярожліва і груба.

Жыць нашай сям'і было цяжка і галадна. Бацька жалавання ніякага не атрымліваў: адміністрацыйнай улады на чыгунцы не было, станцыйны персанал разбегся, хто куды. Маму часта выклікалі да парадзіх у далёкія вёскі — адсюль і браўся, па сутнасці, адзіны сродак на жыццё. Час быў смутны, трывожны. На лясных шляхах шасталі ваўкаватыя ўзброеныя людзі, якія без прычыны давалі волю сваёй зброі. Бывала, у глухую марозную ноч раптам пастукае нехта пугаю ў аканіцу: «Духтарша! Аднак уставай, бяда, баба радзіць сабралася, ды не можа, прасіла цябе прывезці... Богам прашу, паедзем!..» І маці, не вагаючыся, брала свой «духтарскі» саквояж, цалавала нас, сонных і напалоханых, і ў пяцідзесяціградусны сібірскі мароз выпраўлялася на сялянскім вазку за сотню вёрст. Дзіўна, што гэткія самаахвярныя паездкі маці ў глухамань, нягледзячы на рызыкоўныя сустрэчы і падарожныя нечаканасці, абыходзіліся без трагічных здарэнняў. Вярталася яна дамоў з такіх экспедыцый заўсёды з харчам. Прывозіла хлеб, сала, марожанае мяса або марожанае малако ў кругах. Таежныя мужыкі шчодра дзякавалі выратавальніцы — натуральным харчам.

●

Вопытным вокам шуміхінскія абывацелі заўважылі: калчакаўцы пачалі нервавацца, значыць хутка — адступленне. Адзін з нашых кватарантаў-афіцэраў пачаў загаворваць з мамай пра тое, што нашаму сямейству трэба наладзіць зборы ў дарогу разам з калчакаўцамі, якія наважыліся ўцякаць. Бацькоў пачалі пужаць расказамі пра тое, што робіцца ў раёнах, ужо занятых часцямі Чырвонай Арміі. Расказвалі пра здзекі, гвалтоўніцтва... Тады пад уплывам жудасных чутак многія шуміхінскія абывацелі пачалі збірацца ў дарогу. Нашым бацькам афіцэры даводзілі, што калі мы адмовімся сесці ў калчакаўскі эшалон, гэта будзе ацэнена як здрада радзіме і судзіць нас будуць адпаведна законам ваеннага часу. Такія пагрозы абуралі бацькоў, бо дзікім чуткам яны не верылі, маці казала, што калчакаўцы распускаюць пра Чырвоную Армію пачварныя плёткі, успамінала сяброў сваёй сям'і ў Забайкаллі — ссыльных рэвалюцыянераў, людзей пераважна добра адукаваных, і верыла, што іхнія высокія прынцыпы і гуманныя ідэі павінны быць кіруючымі ў асяроддзі чырвонаармейцаў. Бацькі не збіраліся пакідаць Шуміху. Ды і казакі падтрымлівалі настрой маці, запэўнівалі яе, што крывавыя афіцэрскія байкі — няпраўда, што нашай сям'і не трэба баяцца Чырвонай Арміі, што і самі яны, казакі, *пры першым жа выпадку* будуць пераходзіць на бок чырвоных. Тым не менш бацькі, не збіраючыся нікуды ад'язджаць, але памятаючы пра пагрозы сваіх кватарантаў, для адводу вачэй пачалі інсцэніраваць зборы сям'і ў дарогу...

Бацькі дамовіліся гаварыць пастаяльцам, што карову і каня яны пакінуць на суседзяў «да лепшых часоў», а для гэтага трэба нарыхтаваць ладны запас сена. Мы з бацькам выправіліся на сенакос далей ад станцыі, каб там некалькі дзён перачакаць, пакуль адыдзе апошні калчакаўскі эшалон. Маці заставалася дома, але са зборамі марудзіла, спасылаючыся на тое, што трывожыцца, чакаючы з сенакоса мужа і сына.

...У тыя дні з нашых краёў многія людзі, не разабраўшыся ў падзеях, якімі жыла краіна, пабаяўшыся цяжкасцей і паверыўшы ў варожую для рэвалюцыі агітацыю, здраджвалі радзіме і беглі на ўсход разам з войскамі белачэхаў або калчакаўцаў.

●

З прыходам Чырвонай Арміі на станцыі і ў пасёлку ўпершыню пачаў усталёўвацца парадак. Адыходзілі ў мінулае страхі. У шуміхінцаў з'явілася ўпэўненасць, што ўсе жахі, перастрэлкі, начныя налёты, вобыскі, арышты,— усё гэта ўжо не вернецца. Усе адчулі, што скончыўся вялікі, шматпакутны этап: грамадзянская вайна.

Аднак мірнае жыццё азмрочылі жыццёвыя цяжкасці. Усе пасялковыя прыватныя крамкі даўно закрыліся, і замест іх на пустыры за станцыяй шырока *разгарнуўся чорны рынак*. Гэта была зусім новая для шуміхінцаў з'ява. Аднекуль узялося мноства нікому не знаёмых падазроных людзей, якія гандлявалі па фантастычных цэнах самымі неабходнымі для жыцця рэчамі.

Шмат гадоў мінула, калі я, пажылы ўжо чалавек, быў у Амерыцы, у кампаніі калег і новых сяброў, за кубкам гарбаты. Я тады ўбачыў, як дамы, што былі за сталом, замест цукру апускалі ў кубкі дробненькія пілюлькі сахарыну. На маё здзіўленне: чаму перавага аддаецца сахарыну, — мне адказалі, што гэта робіцца дзеля захавання фігуры. І я ўспомніў далёкія часы, шуміхінскіх кабет, якім для захавання зграбнасці не быў патрэбны сахарын: акалічнасці тагачаснага жыцця трымалі іхнія фігуры ў досыць добрай спартыўнай форме...

●

Першае Кастрычніцкае свята прыйшло да нас, у Шуміху, яркай сонечнай сібірскай восенню. Неба было бясхмарнае і пранізліва сіняе, дзьмуў свежы моцны парывісты вецер, узнімаў на азёрах шумную, крутую, яркую хвалю. Гэты ж вецер энергічна развінаў тады яшчэ нязвыклыя для шуміхінцаў чырвоныя сцягі і лозунгі. (Я памятаю, як у тыя часы мае бацькі, уважліва прачытаўшы тэкст пабачанага на станцыі лозунга, цытавалі яго дома і сур'ёзна, паважліва абмяркоўвалі ягоны сэнс). Узрушаны, у кампаніі равеснікаў, я ўрачыста ішоў на плошчу перад вакзалам на сваю першую ў жыцці Кастрычніцкую дэманстрацыю!

На плошчы была пабудавана са свежаабструганых дошак невялікая трыбуна, спавітая звонку чырвонай тканінай. Перад трыбунай стаялі шарэнгі чырвонаармейцаў з пышнымі пунсовымі бантамі на гімнасцёрках. Збіраліся па-святочнаму апранутыя шуміхінцы. Нарэшце, на трыбуну зайшло некалькі чалавек. Яны *па чарзе* пачалі гучна і эмацыянальна, без паперак, гаварыць свае прамовы. Я не памятаю, каб зразумеў, пра што была гаворка, але запомніў адчуванне навізны і значнасці самой падзеі. І яшчэ запомніў, што пасля мітынгу людзі разыходзіліся ў прыўзнятым і вясёлым настроі, святочныя, спакойныя, упэўненыя.

## *Пераклады*

### Вадзім ШЭФНЕР

●

Нам сніцца не тое, што хочацца нам, —
Нам сніцца тое, што хочацца снам.

На нас і дагэтуль грымотныя сны
Наведзены, як куляметы з вайны.

Яны нас упіхваюць у цягнікі,
Вязуць, не пытаюць напрамак які.

І сняцца пажары тым, хто аслеп,
І сытаму сніцца блакадны хлеб.

І тыя, чыіх не чакаем лістоў,
Папросту вяртаюцца ноччу дамоў.

Заходзяць сябры даваеннай пары:
Што ў свеце няма іх, — не знаюць сябры.

А снарад, што мяне абмінуў у той час,
Асколкам у сне даганяе нас.

І доўга ляжым у пакуце начной,
Між явай і сном, на зямлі нічыёй.

### *Недалёка ад Ленінграда*

Палац стаіць. Ён — гэта ён —
І глянуць люба-дарага.
Не помніць, што ўзарваны ён
Пры адступленні ворагам.

Каменны, ён не перамог
Траціла ярасць лютую,
І на зямлю зваліўся, лёг
Бясформеннаю грудаю.

Але ён сілу меў здавён,
Надзелены трываласцю —
Адлюстраваўся ў кнігах ён
Увесь, як ёсць, з дакладнасцю.

І вось узняўся ён, узнік,
З людскім жаданнем зліты,
Пацверджаны жыццём двайнік,
Вярнуўся ён з нябыту.

Ён з лічбаў, здымкаў, верных слоў,
Па волі рэстаўратараў,
Святочны, уваскрэснуў зноў,
Сабою ўсіх узрадаваў.

Даўно яго тварэц памёр,
А над вякамі-мігамі
Жыве палац — любві прастор,
Адратаваны кнігамі.

### *Два чалавекі*

Тваё няшчасце ў тым, што ты не знаў бяды,
Меў лёгкія шляхі, еў лёгкі хлеб заўжды.
Хай кажуць слепакі: удачнік ты ва ўсім,
Ды крочыць не хацеў бы я ў паход з такім.

Пабачыў я такіх. Датуль ты дабрадзей,
Пакуль ты сыты сам, ашукваеш людзей.
Да першых неладоў — шыбуеш яшчэ як!
Да першай бойкі ты — цвярозы і смяльчак.

З таварышам маім пайшоў бы я ў паход,
Хоць кажуць, у жыцці не ведаў ён выгод.
Хоць ён перамагаў, але й хлябнуў бяды —
Меў цяжкія шляхі, нялёгкія гады.

Ён лёкаем у лёсу не бываў,
Ён цяжка крочыць: падаў і ўставаў.
Такі не падвядзе аж да астатніх дзён.
Яго удача ў тым, што сам няўдачнік ён.

### *Радыётэхніка*

О цудадзей-пратэз — усім
Для слыху і для зроку!
Ужо за край нябёс глядзім,
Зямля — навідавоку.

З дастаўкаю дадому свет —
Усё спазнаць, няйначай!
Але не бачым мы як след
Таго, хто побач плача.

### Сяргей ДАВЫДАЎ

### *Размова з ракой*

«Ты любіш па-ранейшаму Няву?»
«Што пытаць? Няма ніякай рады!»
«З палонкі піў мяне ў блакаду?»
«Піў, Нява. Таму я і жыву...»

«А чаму засмуткаваў тады,
Ходзіш ты паўночнікам панылым —
Можа быць, жанчына разлюбіла?»
«Можа быць... Не тут шукай бяды».

«Доляй нездаволены сваёй?»
«І жыццём, і доляй задаволены...
Толькі б не развітвацца з табой!
Развітанне ў міг апошні той...
Адмяніць яго ніхто не здольны!»

●

Пройдзе тысяча год —
Уленшпігель не выдасць нікога,
Не ўратуе нікога Габсек.
Пройдзе тысяча год — з веку ў век —
І не здрадзіць Таццяна свайму генералу,
Вечны Гамлет не здрадзіць сабе.
Пройдуць тысячы год,
А яны будуць жыць, як бывала...

Можна будзе гуляць у кампаніі Швейка,
Ўсё яму давяраючы смела.
Не завяне ніколі Манон лебядзіная шыйка,
*Нават загадзя ведаю,* што са мною зрабіў бы Анджэла...

Колькі ёсць мастакоў на зямлі,
Кожны прагне славы хаця б на паўвека,
ды не кожны ўмее
вылепіць
Чалавека...

Пераклала
Эдзі АГНЯЦВЕТ.

## ГЕРОЙ ТЭЛЕНАРЫСА—ВУКУЛІ КАДУА

З новай кароткаметражнай кінастужкай «Дарога ў сёння» пазнаёміла сваіх гледачоў Брэсцкая абласная студыя тэлебачання. У яе цэнтры — грузін Вукулі Лаўрэнцьевіч Кадуа, які ў час Вялікай Айчыннай вайны партызаніў у маларыцкіх лясах, разам з сябрамі па зброі знаходзіў прытулак у хатах беларускіх сялян, а потым ваяваў з фашыстамі на фронце, дайшоў да Берліна. Камуніст В. Кадуа за адвагу і мужнасць, праяўленыя ў баях, удастоены ордэна Чырвонай Зоркі, адзінаццаці медалёў. Ветэран вайны і цяпер у страі — у родным сяле Вялікі Абастуман працуе настаўнікам гісторыі, часта з сынамі Валерыем і Вальдэкам, якія з'яўляюцца дырэктарамі сярэдніх школ у г. Зугдзідзі, прыязджае ў Беларусь. Тут у яго шмат сяброў, асабліва — у Маларыцкім раёне.

Вось і ў апошні свой прыезд Вукулі Лаўрэнцьевіч пабываў на месцах баёў, разам з рускім Віктарам Сідаравым, беларусам Міколаем Шышом, украінцам Паўлам Дзюбенкам усклаў кветкі да мемарыяльнай пліты з прозвішчам свайго земляка Акакія Шэварднадзе, які загінуў у першыя дні вайны пры абароне цытадэлі над Бугам.

Настаўніцкая дынастыя Кадуа з шаснаццаці чалавек — самая вялікая ў Грузінскай ССР.

М. ЗОРАЧКІН.

## АБ'ЯВЫ

Пры Саюзе тэатральных дзеячаў Беларусі адкрываецца тэатр-лабараторыя без пастаяннай групы. Заяўкі прымаюцца на 1989 год да 1 снежня 1988 года. Даведкі па тэлефоне: 36-68-39.

### ПАЛАЖЭННЕ
### аб эксперыментальным тэатры «Шанц» СТД БССР

Мэта эксперыментальнага тэатра «Шанц» — пошук новых арганізацыйна-творчых форм, новых мастацкіх ідэй, выяўленне наватараў і талентаў.

1. Узначальвае эксперыментальны тэатр «Шанц» мастацкі савет, які зацвярджаецца прэзідыумам Саюза тэатральных дзеячаў БССР. Скасаваць ра*шэнне мастацкага савета можа* толькі прэзідыум СТД БССР.

2. Разавы дагавор заключаецца СТД БССР з усёй групай пастаноўшчыкаў, у выніку прызнання большасцю савета мастацкай значнасці прапанаванай пастановачнай ідэі.

3. Перавага аддаецца арыгінальным літаратурна-сцэнічным ідэям, аўтарам, што не ставіліся раней на савецкай сцэне, аўтарам і стылям, вернутым для сцэны.

4. Разавы дагавор уключае ў сябе: прадастаўленне матэрыяльна-тэхнічнай базы (асноўная база тэатра — сцэна Дома мастацтваў); колькасць рэпетыцый (аплачваюцца па 0,5 канцэртнай стаўкі з улікам аб'ёму ролевага матэрыялу); тэрмін выпуску спектакля; дапамога ў размеркаванні заказаў па вырабе дэкарацый і касцюмаў у майстэрнях тэатраў Мінска; аплата рэжысёру, мастаку, кампазітару, балетмайстру і г. д. (толькі пасля прыняцця спектакля мастацкім саветам); арэнду сцэнічных пляцовак для пракату спектакля (не радзей чым 1 раз у месяц) у рэспубліцы і за яе межамі.

5. *Пракат спектакляў наладжваецца* СТД з аплатай акцёрам за кожны спектакль на аснове разавых ставак. Сума, што застанецца (за выключэннем аплаты арэнды памяшкання і іншых выдаткаў) пералічваецца ў фонд СТД.

6. У функцыі «Шанцу» ўваходзіць і пакупка гатовых спектакляў, з выплатай кампенсацыі за ўкладзеную працу. Памер кампенсацыі вызначаецца спецыяльна створанай камісіяй СТД БССР.

7. Для ўдзелу ў рабоце прыцягваюцца творчыя сілы рэспублікі. У функцыі мастацкага савета эксперыментальнага тэатра «Шанц» уваходзіць кантроль за творчым працэсам рэалізацыі прапанаванай мастацкай ідэі.

10. Дагавор з пастановачнай групай разрываецца ў выпадку непрафесійнага стаўлення да справы, з утрыманнем патрачаных фінансавых сродкаў. Рашэнне аб разрыве дагавору прымаецца мастацкім саветам супольна з канфліктнай камісіяй СТД БССР.

11. Мастацкі савет эксперыментальнага тэатра «Шанц» *праз СТД садзейнічае пераўтва*рэнню калектыву аднадумцаў, які даказаў сваю ідэйна-мастацкую сталасць, мае сваю праграму і свайго лідэра, у новы тэатр.

Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Васілю Вітку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці брата Барыса Васільевіча.

Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Кузьме Хромчанку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.



 

У час нашай нядаўняй сустрэчы ў Доме творчасці «Іслач» Раман Іванычук (а ён у «Іслач» прыязджае ўжо другі раз — піша новы раман) усцешна расказваў: толькі што прачытаў у «Нёмане» аповесць Уладзіміра Караткевіча «У снягах драмае вясна» і літаральна быў уражаны падабенствам гэтага твора са сваёй ранняй аповесцю «Прыпыніся, падарожнік!» Тэма, сюжэтныя хады амаль тыя самыя: студэнцкае жыццё, 1952 год, пярэдадзень смерці Сталіна. Ды і доля падобная абодва творы напаткала: аповесць Караткевіча, напісаная ў 50-я гг., надрукавана толькі сёлета; аповесць жа Іванычука, знятая цэнзурай у 1966 годзе з «Жовтня», рыхтуецца да друку зараз...

Я ўспомніў гэта, каб паказаць духоўна-творчую блізкасць У. Караткевіча і вядомага ўкраінскага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі і літаратурнай прэміі імя А. Галаўка, гістарычнага раманіста Рамана Іванавіча Іванычука. Блізкасць, што прывяла да іх знаёмства, а пасля і шчырага сяброўства, творчага пабрацімства. Да іх актыўнага ліставання (дарэчы, у канцы гэтага года ў «Полымі» мяркуецца апублікаваць лісты Караткевіча да Іванычука), да паездкі аўтара «Каласоў пад сярпом тваім» у Львоў, наведання сябра, знаёмства з выдатнымі мясцінамі і людзьмі гэтага старажытнага ўкраінскага горада.

Ведаючы пра блізкія ўзаемаадносіны Іванычука з Караткевічам, я, прызнаюся, «падбіваў» Рамана Іванавіча на гэтыя ўспаміны, на яго «рэквіем». Ён іх напісаў недзе праз год пасля смерці свайго беларускага сябра, але да гэтага часу нідзе яшчэ не публікаваў. Гэта публікацыя — першая. Мяркую, яна зацікавіць чытачоў штотыднёвіка.

Вячаслаў РАГОЙША.

Раман ІВАНЫЧУК

# МОЙ РЭКВІЕМ

Я спазніўся. «Выберыся нейк да мяне. Хочаш зімою — здабудзем лыжы і будзем разводзіць вогнішчы. А хочаш — і бліжэй да вясны. Паедзем на мой беларускі Дняпро, будзем лавіць рыбу і спаць на сене». Я адказаў: «Трохі пазней, Валодзя, паспеем, яшчэ ж не паміраем».

І не паспеў. З магілы глядзіць на мяне валун з такім знаёмым подпісам Уладзіміра. І валун той важкі і неапрацаваны, нечым падобны на самога Караткевіча, і не падобны да іншых помнікаў, як і ён не быў падобны ні на кога.

Чаму чалавечае небыццё павінна конча прыгнятаць жывых? Чаму мы так бяздумна паўтараем словы Джона Дона: «Ад смерці кожнага чалавека меншаю і я»? А можа, ад смерцяў, заканамерных і непазбежных, чалавецтва не бяднее, а ўзбагачаецца? Што дала свету смерць Бальзака, Талстога, Франка — страту ці набытак? Набытак, бо са смерцю геніяў зніклі іх слабасці, а застаўся толькі найпатрэбны людзям прадукт іхняга мыслення. Ці ж зменшыўся я, даведаўшыся пра смерць слаўнага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча, майго добрага сябра? Ды не — наадварот: я вырас і ўзмужнеў, забіраючы ў яго тое найкаштоўнае, што здолеў ён пакінуць усім нам...

Так я выплёскваў свой боль, стоячы ў самоце на Маскоўскіх могілках у Мінску перад магілаю сябра. Суцяшаў сябе марным філасафаваннем, якое не магло заглушыць у мяне адчування непапраўнай віны перад ім — за свае кароткія лісты, на якія Валодзя адказваў то барокавымі, то гумарыстычнамі, шчыра-балючымі пасланнямі ў духу лепшага эпісталярыя мінулага стагоддзя; за тое, што ні разу не прыехаў да яго ў госці, хаць ён запрашаў амаль у кожным лісце; за тое, што заўсёды згадваў ён пра сваё гасцяванне ў мяне ў Львове, як пра «адзін з найлепшых і светлых дзён», і, напэўна, хацеў каб і я нацешыўся яго гасціннасцю; за тое, што палюбіў ён, быццам сваё роднае дзіця, маю Наталю, любоўна назваўшы яе «фулюганкаю», а я ні разу не спытаў яго пра асабістае жыццё: за тое, што не раз ён прасіў мяне напісаць нешта і пра гісторыю Беларусі, і я толькі цяпер выконваю яго запавет; і за тое, што па-рыцарску ён абараняў мяне перад пагромшчыкамі, а я так мала цікавіўся яго пісьменніцкімі клопатамі, якіх у яго было не менш...

Божа!.. Як лёгка прыйсці да высновы пра найкаштоўны прадукт пісьменніцкай працы, забыўшыся, колькі дабра мы засушваем у сабе, шукаючы ў людзях толькі патрэбныя нам каштоўнасці і забываючыся пра іх зямное, звычайнае, чалавечае. Давайце ж, сябры, прыносіць сваім бліжнім будзённую ўцеху!

Дзеля свайго апраўдання перад светлаю памяццю сябра ўсё ж такі знаходжу важкі аргумент: я шчыра любіў і паважаў Уладзіміра Караткевіча, якога нельга было аддзяліць ад ягонай творчасці. Да першай і адзінай сустрэчы, не бачыўшы яго ў вочы і ведаючы толькі па творах і лістах, я лічыўся з Караткевічам як з настаўнікам, хоць былі мы равеснікамі, не пераставаў вучыцца ў яго майстэрству і пасля асабістага знаёмства; я чытаў і перачытваў «Каласы пад сярпом тваім», «Чазенію», «Дзікае паляванне караля Стаха», з тых твораў паўставаў перада мной добры і мудры чалавек, які бясконца любіць сваю Беларусь, яе гісторыю і глыбока шануе маю Украіну, разумеючы і наш боль і нацыянальны гонар. Для мяне, гістарычнага раманіста, Караткевіч заўсёды быў узорам майстра, які ўмела валодаў і чэсна распараджаўся гістарычным матэрыялам, не раўнуючы як добры гаспадар набытай у поце чала маёмасцю; пад уплывам Караткевічавага рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» я напісаў ці не самы ўдалы свой твор «Манускрыпт з вуліцы Рускай», пакарыстаўшыся мастацкімі рэцэптамі беларускага пабраціма.

Перачытваю лісты Караткевіча. «Даўным даўно мы не пісалі адзін аднаму. Можа, яно і лепей: не адбіраць у іншага час непатрэбнымі слававывяржэннямі (усё адно лістом не скажаш таго, што можна выказаць у бясецзе). Але часам усё ж трэба, хаця рады ў гады, нагадаць, што існуе на свеце друг».

Я любіў яго лісты. Можа, таму і не квапіўся да яго на размову, што чакаў тых шырокіх сакаўных пасланняў, падобных хіба што да лістоў Васіля Стэфаніка... Таму я заклікаю беларускіх выдаўцоў: знайдзіце паперу і выдайце асобным томам ліставанне Уладзіміра Караткевіча — няхай нашым нашчадкам засведчана будзе, што ў стэхнізаванай, стэлефанізованай, змеркантыленай другой палове XX стагоддзя былі яшчэ пісьменнікі (прыгадаю з гэтай нагоды і ўкраінца Грыгора Цюцюнніка), якія ўмелі асэнсоўваць найбудзённыя будні ў бясплатных, бескарысных лістах да сяброў.

Гартаю лісты Караткевіча, і ўсё нешта новае знаходжу ў іх. То падрабязна аналізуе ён прысланы яму новы твор, то дзеліцца сваімі задумамі, то цешыцца новым пісьменніцкім імем, то абураецца... Не дзеля самапахвальбы, а для характарыстыкі Караткевіча, пісьменніка чэснага і прынцыповага, сапраўднага рыцара дружбы, не магу не згадаць яго знішчальнага паслання аднаму маскоўскаму крытыку-чарнасоценцу, у якім Валодзя, адным з першых, стаў на абарону майго рамана «Мальвы»...

Іду з могілак да Валодзі на кватэру. Заходжу ў кабінет. Мяне суправаджае такая падобная да брата Наталя Сямёнаўна Караткевіч, чытаю на яе абліччы дабрыню Валодзі.

«Вось яго ложак, вы спалі б на ім, калі б прыехалі своечасова... А на гэтай паліцы яго ўласныя кнігі».

Багата, дужа багата кніг. За сваё кароткае жыццё Караткевіч паспеў напісаць твораў на цэлых дзесяць тамоў — пра боль, подзвігі, культуру, душу беларускага народа. Ці кожная нацыя мае такога пісьменніка? І таму незразумела, чаму з дзесяці магчымых тамоў выдаюць толькі восем. Чаму? Няўжо тых некалькі тон паперы не акупяцца скарбамі яго слова? Хто не разумее ці не хоча гэтага зразумець?

«А гэтыя дзіцячыя цацкі — чые?» — «Валодзіны. Ён вельмі любіў дзяцей, а сваіх не меў».

Няпраўда гэта, меў. Я ведаю, як ён любіў дзяцей. Мая дачка таксама была яго дзіцем. «Не ўдасца мне пабываць на вяселлі зусім дарослай фулюганкі, — пісаў Валодзя. — А ты пацалуй жонку і няхай яна цябе пацалуе. У падзяку, што ўзнялі вы добрае дзіця, паставілі на свае ногі і пусцілі самастойна ў гэты цудоўна багаты і шматфарбны свет».

На акне кабінета даспяваюць лімоны. Сапраўдныя лімоны ў Беларусі? «Ён іх садзіў, прышчэпліваў. Гэтыя, што пажаўцелі ўжо, зацвілі яшчэ пры яго жыцці». Наталя Сямёнаўна дорыць мне чаранок з Валодзінага лімона. Можа, прыжыве, і выспее ў мяне на акне пругкі плод...

Знаходжу на стэлажах падараваныя Караткевічу свае кніжкі. Перачытваю аўтографы: «Шаноўнаму Уладзіміру Караткевічу на знаёмства», «Дарагому другу Валодзю...», «Старому чараўніку...», «Непапраўнаму рамантыку...» І ўрэшце — на апошняй маёй кніжцы: «Гордасці беларускай літаратуры і маёй гордасці — таксама». Нібы адчуваў, што гэтыя словы пара яму сказаць, бо ён іх поўнасцю заслужыў.

... Няхай не прыгнятае і не збядняе нас чалавечае небыццё. Няхай узбагачае. Але балець — павінна.

З украінскай мовы пераклаў

В. РАГОЙША.




**З 24 ПА 30 КАСТРЫЧНІКА**

**24 кастрычніка, 19.45**

Іграе Дзяржаўны камерны аркестр БССР. У праграме старадаўняя французская музыка.

**24 кастрычніка, 20.40**

**«ЗАЧЫТАЙЦЕ МАЕ ПІСЬМО...»**

Агляд крытычнай пошты за тыдзень.

**25 кастрычніка, 21.50**

**«ЛІРА»**

Мастацка-публіцыстычная праграма.

Пісьменніца В. Іпатава вядзе дыялог з ленінградскім гісторыкам В. Грыцкевічам. Тэма размовы — гісторыя і яе асвятленне ў працы гісторыкаў.

**28 кастрычніка, 19.50**

**«НА ПРЫНЕМАНСКІХ ПРАСТОРАХ»**

Вы пабываеце на свяце паэзіі, што адбылося на возеры Свіцязь і пазнаёміцеся з самабытным мастацтвам вышывальшчыцы В. Кавалеўскай.

**29 кастрычніка, 10.55**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Вершы Ф. Шылера ў перакладзе Ю. Гаўрука чытае А. Падабед.

**29 кастрычніка, 17.05**

**«РОДНАЕ СЛОВА»**

У друку прамільгнула паведамленне, што народны паэт Беларусі П. Панчанка прынародна развітаўся з роднай мовай з прычыны пагарды да яе чыноўнікаў і выцяснення з шырокага грамадскага ўжытку. Гэтая вестка ўстрывожыла многіх. У рэдакцыі і на тэлебачанне прыйшлі пісьмы з пытаннямі, наколькі праўдзівая гэта вестка. У чарговым выпуску «Роднага слова» нагаданы адказ П. Панчанкі.

Вы ўбачыце таксама нарыс пра вядомага беларускага мастака Я. Драздовіча, прымеркаваны да сотай гадавіны з дня яго нараджэння, пачуеце яго моўныя і фальклорныя запісы.

Затым гледачоў чакае старонка «Культура слова» (на прыкладзе газеты «Вячэрні Мінск»), а таксама факт для роздуму — пра ўшанаванне імёнаў М. Багдановіча, Ф. Скарыны, З. Жылуновіча ў назвах вуліц Мінска.

Вядзе перадачу Я. Саламевіч.

**30 кастрычніка, 13.50**

**«ПРА МУЗЫКУ АД «А» ДА «Я»**

Працягваецца знаёмства з асноўнымі вехамі ў развіцці беларускай музычнай культуры. Будзе расказана пра першыя крокі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.

Затым старонка, прысвечаная творчасці кампазітара Д. Лукаса.

Як заўсёды, адказы на пытанні мінулай віктарыны.

Адбудзецца знаёмства з творчасцю вядомага літоўскага мастака і кампазітара М. К. Чурлёніса.

На заканчэнне сустрэча з зоркамі беларускай эстрады.

Вядучы — У. Шаліхін.

**30 кастрычніка, 16.50**

Тэлевізійны вернісаж. «У жывапісе, графіцы, скульптуры».

**30 кастрычніка, 17.40**

**«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ»**

Тэлеальманах.

Пра Усесаюзнае свята паэзіі ў Пяцігорску раскажа паэт Ю. Лысаноў.

Вы сустрэнецеся таксама з дырэктарам выдавецтва «Народная асвета» Ю. Бураўкінай.

Даведаецеся пра планы беларускіх выдавецтваў на наступны год.

Вядучы — журналіст У. Сцепаненка.

**30 кастрычніка, 19.00**

Адкрыццё юбілейнага пленума праўлення Саюза кампазітараў БССР. Трансляцыя з Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

## ВЫПРАЎЛЕННЕ ПАМЫЛКІ

У нумары «ЛіМа» за 14 кастрычніка ў артыкуле «Дзяржаўная — значыць раўнапраўная» (стар. 13) 14-ы радок знізу ў пятай калонцы трэба чытаць: «...агульнай для ўсёй краіны мовай...» і далей, як у тэксце.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 01422 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 32-24-62, карэктарскай — 32-20-64, машынапіснага бюро — 33-44-04, бухгалтэрыі — 23-73-37.